

"Каб усе былі адно" (Ян, 17, 21)

# Царква

№ 2 (13), 1997 ВЕЛІКОДНЫ ЧАС



## Велікодны канон

### *Песьня 1*

*Уваскрасеньня дзень! Узрадуемся, людзі: сёньня Пасха Гасподняя, Пасха! Бо вось ад сьмерці да жыцьця і ад зямлі на неба Хрыстос Бог перавёў нас, якія пяём песьню перамогі.*

*Хрыстос уваскрос з мёртвых!*

*Ачысьцім нашы пачуцьці, каб нам убачыць Хрыста ў невымоўным зьзяньні ўваскрасеньн, і пачуць, як ён кажа: "Радуйцеся ўсе, што пяеце песьню перамогі".*

*Хрыстос уваскрос з мёртвых!*

*Нябёсы хай дастойна вясяліцца і хай радуецца зямля, хай увесь сьвет бачны і нябачны сьвяткуе, бо ўваскрос Хрыстос, наша радасьць вечная.*

*Хрыстос уваскрос з мёртвых!*



*Убачыўшы ўваскрасеньне Хрыстова, паклонімся сьвятому Госпаду Ісусу, адзінаму бязгрэшнаму. Крыжу Твайму пакланяемся, Хрысьце, і сьвятое ўваскрасеньне Тваё ў песьнях славім. Ты — Бог наш, апроч Цябе іншага бога ня знаем, імя Тваё клічам. Прыйдзіце, усе верныя, паклонімся сьвятому ўваскрасеньню Хрыстоваму, бо праз крыж прыйшла радасьць усяму сьвету. Заўжды бласлаўляючы Госпада, славім ўваскрасеньне Яго, бо Ён, пацярпеўшы ўкрыжаваньне, сьмерцю сьмерць зваяваў.*

***САШЭСЬЦЕ Ў ПЕКЛА.*** *Апошняя чвэрць XVII - пачатак XVIII ст. Абраз з царквы Маці Боскай Адзігітры і (1904) у Дзісьне Мёрскага р-ну Віцебскай вобласьці.*

# Вялікдзень у Ватыкане

Згодна даўняй традыцыі штогод у Вялікі чацьвер у памяць пра Тайную Вячэру Ісуса Хрыста ў базіліцы сьв. Яна на Латэране зьбіраецца мноства вернікаў з усяго сьвету, каб зноў і зноў нанова перажыць тое здарэньне. І сёлета ў Вялікі чацьвер Ян Павел II а гадз. 17.30 у базіліцы сьв. Яна адправіў сьв. Імшу Тайнай Вячэры ў памяць устанаўленьня Еўхарыстыі, "гэтага найдзіўнага таінства, — як сказаў ён у гаміліі, — якім увесь час жыве Царква, таінства, якое ў найбольш аўтэнтычнай і найглыбейшай рэчаіснасьці складае сутнасьць Царквы". Для падкрэсьленьня той праўды, што Еўхарыстыя шчыльна зьвязаная з рэалізацыяй "новага запавету", Сьвяты Айцец абмыў ногі дванаццаці сьвятарам. У гэтым жэсьце пакорнай любові ён насьледваў Хрысту, які абмыў ногі дванаццаці вучням сваім пад час Тайнай Вячэры.

На наступны дзень у Вялікую пятніцу а гадз. 21.15 Сьвяты Айцец узначаліў у рымскім Калізеі набажэнства Крыжовае Дарогі, якое транасьлявалася па тэлевізіі на 43 краіны сьвету. У гэты дзень Царква ў памяць пра крывавую ахвяру Хрыста на крыжы ня мае еўхарыстычнай Літургіі. Яе замяняе абрад пакланеньня Крыжу, які і меў месца ў базіліцы сьв. Пятра за некалькі гадзінаў перад Крыжовай Дарогай. У гэтым годзе разважаньні да пасобных стацыяў Крыжовай Дарогі падрыхтаваў Найвышэйшы Каталікос Патрыярх усіх Армянаў Карэкін І Саркісян, які ня так даўно зьдзейсьніў экуменічны візіт у Ватыкан. Прадстаўніком Каталікоса падчас Крыжовае Дарогі быў армянскі архібіскуп Нэрсес Базабалян. Перад удзяленьнем з палацінскага ўзгор'я апостальскага блаславенства шматлікім вернікам Ян Павел II зьвярнуўся да іх з прамоваю.



*Рым, 27.03.97, базіліка сьв. Яна. Абрад абмываньня ног 12 сьвятарам.*



*Рым, 28.03.97. Калізей. Ян Павел II узначальвае Крыжовую Дарогу ў суправаджэньні армянскага архібіскупа.*

Падчас Пасхальнай Вігіліі, якая распачалася ў Ватыканскай Базіліцы а 20-й гадз. і трывала больш за тры гадзіны, Рымскі Архірэй удзяліў таінства сьвятога хросту, а затым бежмаваньня 10 асобам, якія паходзяць з Албаніі, Беніну, Астравоў Зялёнага Мысу, Кітаю, Тайваню і Заіру.

Больш за 200 тысячаў вернікаў, што прыбылі ў Рым з усіх кантынентаў, запоўнілі пляц сьв. Пятра ды прылеглыя вуліцы, удзельнічалі ў літургіі ў Нядзелю Ўваскрасеньня Гасподняга. Пасьля літургіі Сьвяты Айцец удзяліў традыцыйнае апостальскае блаславеньне *"Urbi et Orbi"* і зрабіў сьвяточнае прывітаньне вернікам на 57 мовах, у тым ліку і па-беларуску: ***"Дарагія беларусы! Хрыстос уваскрос! Сапраўды ўваскрос".*** Гэтую ўрачыстасьць маглі назіраць па тэлебачаньні каталікі ня менш чым у 60 краінах сьвету. У сваім Велікодным пасланьні *"Urbi et Orbi"* ("Гораду і Сьвету") Ян Павел II сказаў (падаем урывак з прамовы):



*Ватыкан, 29.03.97. Базіліка сьв. Пятра. Падчас Пасхальнай Вігіліі Рымскі Архірэй удзяляе таінства хросту.*

"Да вас зьвяртаюся, хрысьціяне! Зьвяртаюся да вас, католікі, праваслаўныя, лютаране, пратэстанты! Да вас зьвяртаюся з той вялікай весткай: Хрыстос уваскрос з мёртвых! Той, якога Ян Хрысьціцель указаў як Агнца Божага (пар. Ян 1, 29, 36), адкупіў сваю аўчарню: *"Agnus redemit oves"*. Хрыстос адкупіў сваю аўчарню — усё чалавецтва, усіх людзей без вынятку. Хрыстос, нявінная ахвяра Крыжа, паяднаў з Айцом нас грэшнікаў. Ён — бязгрэшны — нас грэшнікаў прывёў да Айца. [...]



*Ватыкан, 30.03.97, Пасха Гасподняя. Пачатак сьв. Імшы на плошчы сьв. Пятра.*



*Ватыкан, 30.03.97, Пасха Гасподняя. Ян Павел II удзяляе апостальскае блаславеньне "Urbi et Orbi".*

Чалавек, які змагаецца са злом, які ўвесь час нанова аб'яўляе вайну сьмерці, стараючыся засьцерагчы жыцьцё ад усялякіх небясьпекаў, гэты чалавек няхай сёньня затрымаецца, няхай стане ў зьдзіўленьні. Сёньня сьмерць была пераможаная.

Сын Божы, які нарадзіўся ад Марыі Дзевы, Бог ад Бога і Сьвятло ад Сьвятла, Сын Божы адзінасутны з Айцом, прыняў ганебную сьмерць на крыжы. У Вялікую пятніцу Ён быў пакінуты ў гробе і вось сёньня на сьвітаньні адкінуў камень гробу і сам уласнай сілаю ўваскрос з мёртвых. [...]

Радуйся, Марыя з Магдалі! Радуйцеся, Пётр і Ян! Радуйцеся, усе апосталы! Радуйся, Царква, калі гроб ёсьць пусты. Хрыстос уваскрос з мёртвых! [...]

Зьвяртайцеся з намі да ўсяго чалавецтва: *"Surrexit Christus spes mea — Surrexit Christus spes nostra!"*

Зьвяртайцеся з намі, таму што Хрыстос ёсьць надзеяй таксама для тых, жыцьцё і будучыня якіх знаходзяцца пад пагрозай вайны і нянавісьці, асабліва ў цэнтры афрыканскага кантыненту.

Сьвятло Хрыста няхай вядзе тых, што кіруюць дзяржавамі, рашэньні якіх павінны фармаваць суіснаваньне розных народаў, культураў і рэлігіяў, так як у Сьвятой Зямлі.

Моц Уваскрослага Госпада няхай дапамагае тым, якія прагнуць умацаваць мір і дэмакратыю, якія здабытыя часта цаной многіх ахвяраў, так, як у рэгіёне Балканаў і, у прыватнасьці, у дарагой нам Албаніі.

Няхай любоў Хрыста, Пераможцы граху і сьмерці, абдорыць усіх адвагай прабачэньня і паяднаньня, без якіх ня можна разьвязаць праблемаў у спосаб, годны чалавека. [...]

Няхай пасхальная радасьць станецца ўдзелам усіх нашых братоў у веры, якія ў розных частках сьвету церпяць уціск альбо перасьледаваньні. Яны ня могуць, на жаль, адзначыць гэтае сьвята Адкупленьня так, як бы жадалі. Няхай не паддаюцца расчараваньню, няхай не адчуваюць сябе самотнымі! Ёсьць з імі Хрыстос, ёсьць з імі Царква!

*"Surrexit Christus spes mea"*. Хрыстос сапраўды ўваскрос! У Ім мы можам сёньня перамагчы сілы зла. Ён усім прыносіць новае жыцьцё; дзякуючы Яму кожны можа ўжо сёньня адкрыцца з любоўю для братоў у духу гасьцінасьці, служэньня і прабачэньня. Так, у васкрослым Ісусе ўсё знаходзіць новы сэнс і вартасьць."

# Слова на Вялікдзень 1997 году Апостальскага візітатара ad nutum Sanctae Sedis для грэка-католікаў у Беларусі

*Вялебныя Айцы: Сьвятары і Дыяканы,*
*дарагія Манахі, Манашкі і Семінарысты,*
*дарагія Браты і Сёстры ў Васкрослым Госпадзе!*

1. Падчас пасхальнай ютрані Сьвятая Царква зьвяртаецца да ўсіх словамі гаміліі сьвятога Яна Залатавуснага: "Хай усе пабожныя і багалюбцы цешацца ў дзень гэтай вялікай і сьветлай урачыстасьці; хай усе разумныя слугі ўвойдуць у радасьць гаспадара свайго..."



Паводле гэтых словаў мы ўсе закліканы сёньня ўзяць удзел у пладах Пасхальнай перамогі Ісуса Хрыста.

*Сьвяткуем сьмерці сьмерць,*
*пекла зьнішчэньне*
*і новага вечнага жыцьця пачатак.*
*(Пасхальная ютрань, канон, песьня 7)*

У складаны час, у які мы жывём, мы павінны помніць, што Пасха Ісуса Хрыста — Яго Крыж і Ўваскрасеньне, гэта сапраўдная перамога Сына Божага над злом у гэтым сьвеце. Плады гэтай перамогі жывуць сёньня ў Сьвятой Царкве Хрыстовай, Уваскрасеньне Хрыста напаўняе сьвятлом нашае жыцьцё. Перад абліччам Уваскрослага Госпада зьнікае ўсякая хлусьня і мана, як зьнікае дым, а ўся людзкая сіла тае, як тае воск ад агню.

У Вялікую Пятніцу ў малітве Павячэрніцы, перад сьвятой плашчаніцай Ісуса Хрыста Царква сьпявае:

*Ізраіль, ідучы па дне марскім, быццам па сушы,*
*бачыўшы, як фараон, што гнаўся за ім, патануў у бездані*
*усклікнуў: "Пяем Богу пераможную песьню...*
*(песьня 1)*

Калі мы адчуваем сябе змучанымі цяжкасьцямі жыцьця, нам ня трэба сумаваць і паддавацца. Як хрысьціяне мы пакліканыя, каб з глыбокай верай у моц Крыжа і Ўваскрасеньня Хрыста адважна абвяшчаць:

*Хрыстос — мая Сіла, Бог і Госпад —*
*пачэсная Царква дастойна пяе і кліча,*
*спраўляючы сьвята з чыстым розумам у гонар Госпада.*
*(песьня 4)*

2. Сьвятое Евангельле сьведчыць аб тым, як Уваскрослы Госпад прыйшоў да сваіх вучняў і прывітаў іх словамі "Мір вам!", а наступна дыхнуў на іх і сказаў: "Прыміце Духа Сьвятога" (Ян 20, 19, 22). Так сама і сёньня Хрыстос прыносіць нам — Сваёй Царкве — супакой і Дар Сьвятога Духу. Гэты Дух умацоўвае нас у вернасьці Госпаду і Яго Сьвятой Царкве.

У сьвятле Ўваскрасеньня Хрыстовага мы разумеем, што быць сапраўдным хрысьціянінам, верным Госпаду, не дае ніякіх матэрыяльных карысьцяў, але гэта адзіны шлях, каб захаваць годнасьць, якую мы атрымалі ў тайне сьвятога Хросту і Хрызмаваньня. Як хрысьціяне мы хочам быць вернымі Госпаду і сьведчыць аб Ім у нашым жыцьці там, дзе Ён нас паставіў. Мы хочам быць Яго сьведкамі ў нашых сем'ях і ў нашай Бацькаўшчыне.

Нашая Беларуская Грэка-Каталіцкая Царква праз свае літургічныя службы на роднай мове хоча дапамагчы нам усім у гэтым сьведчаньні аб сіле Ўваскрослага Госпада.

Мы вельмі ўдзячныя Госпаду, што сёлета парафіі нашай Беларускай Грэка-Каталіцкай Царквы маглі праводзіць усе службы Вялікага Тыдня цалкам на беларускай мове. Гэта стала магчымым дзякуючы вытрывалай працы і шчодрасьці мітрафорнага протаерэя вялебнага айца Аляксандра Надсана — Апостальскага візітатара для Беларусаў замежжа, які нам падарыў новае, поўнае выданьне службаў. Такім чынам, вялікае багацьце ўсходніх багаслужэньняў стаецца больш даступным сучаснаму чалавеку. Гэтая бясцэнная праца служыць таксама паглыбленьню патрыятызму і любові да роднай мовы, роднай культуры Бацькаўшчыны.

Сьвяткуючы Пасху Гасподнюю, нам трэба помніць, што ў нашыя дні ў нашай Бацькаўшчыне шмат людзей, асабліва маладых, шукае крыніцы сапраўднай духоўнай сілы, каб не згубіць сваёй годнасьці і ня стацца нявольнікамі. Гэта наш вялікі абавязак паказаць гэтым людзям, што сапраўднай крыніцай свабоды ёсьць Уваскрослы Госпад Ісус Хрыстос.

Дарагія Браты і Сёстры!

Наш руплівы ўдзел у службах Велікоднага перыяду няхай напоўніць нашыя сэрцы сапраўднай, духоўнай радасьцю. З глыбіні сэрца сьпявайма словы пасхальнае сьціхіры:

*Уваскрасеньня дзень!*
*Прасьвятлімся ўрачыстасьцю*
*і адзін аднаго абдымем;*
*скажам "Браты" і тым, што ненавідзяць нас,*
*прабачыўшы ўсё дзеля Ўваскрасеньня,*
*і ўсклікнем:*
*"Хрыстос уваскрос з мёртвых,*
*сьмерцю сьмерць зваяваў*
*і тым, што ў магілах,*
*жыцьцё дараваў!"*

У радасным Дні Ўваскрасеньня Хрыстовага ўспомнім у нашых малітвах таксама тых нашых братоў і сёстраў, якія жывуць далёка ад нашых парафіяў і ня маюць магчымасьці сумесна сьвяткаваць Вялікдзень. Успомнім усіх нядужых, тых, што церпяць, а таксама ўсіх зьняволеных, асабліва зьняволеных дзеля справядлівасьці. Няхай у сэрцах іх зазьзяе сапраўднае Сьвятло Ўваскрасеньня.

Няхай дні Пасхі Гасподняй будуць для нас усіх часам духоўнай сулучнасьці і ўзаемнай малітвы за сябе.

Дарагія Браты і Сёстры ў Васкрослым Госпадзе!

Прыміце таксама найлепшыя віншаваньні ад Яго Эмінэнцыі кардынала Ахілеса Сільвестрыні, Прэфекта Кангрэгацыі Ўсходніх Цэркваў.

Няхай Уваскрослы Госпад Ісус Хрыстос даруе ўсім вам багацьце сваёй міласэрнасьці.

*Хрыстос уваскрос!*
*Сапраўды ўваскрос!*

+ архім. Сергей Гаек

*Ватыкан — Менск,*
*Пасха Гасподняя 1997 году*

# Чэхія сустракае Яна Паўла II

25-27 красавіка адбыўся візіт Рымскага Архірэя Яна Паўла II у Чэхію. Гэта была 76 замежная паездка главы Каталіцкай Царквы. Візіт быў прымеркаваны да 1000-годдзя з дня мучаніцкай сьмерці архібіскупа Прагі Адальберта, які быў забіты ў 997 годзе прускімі язычнікамі.

У аэрапорце Яна Паўла II прывітаў прэзідэнт Вацлаў Гавел, пасьля чаго Сьвяты Айцец сустрэўся з чэшскімі каталіцкімі біскупамі. У сваёй прамове ён заклікаў ерархаў прапаведваць Евангельле і процістаяць пашырэньню амаральнасьці і духу нажывы, якія сёньня пануюць у краінах Усходняй Еўропы. Ян Павел II падкрэсьліў неабходнасьць вяртаньня маёмасьці, якая была адабраная пры камуністычных уладах.

26 красавіка ў Градзец-Кралаве, дзе нарадзіўся сьв. Адальберт, Ян Павел II адправіў богаслужэньне для моладзі, на якое сабралася больш за 40 тысячаў маладых чэхаў. У гэты ж дзень Рымскі Архірэй меў сустрэчу з прэзідэнтам В.Гавелам.

27 красавіка зранку Ян Павел II адправіў богаслужэньне ў Празе на Летэнскім полі. Яно было прысьвечана 1000-годдзю мучаніцкай сьмерці сьв. Адальберта і сабрала ад 100 да 120 тысячаў асобаў.

Глава Рыма-Каталіцкай Царквы таксама меў сустрэчы з прадстаўнікамі іншых канфесіяў — праваслаўнымі і пратэстантамі. Кульмінацыяй гэтай сустрэчы стала экуменічная малітва ў саборы сьв. Віта, на якой таксама прысутнічаў і прэзідэнт Чэхіі Вацлаў Гавел. У сваёй прамове Ян Павел II высока ацаніў дзейнасьць камісіі па вывучэньні абставінаў суда над вядомым чэшскім рэфарматарам XV стагоддзя Янам Гусам, які быў спалены на вогнішчы. Па словах главы Рыма-Каталіцкай Царквы, гэтая справа патрабуе дасканалага вывучэньня.

У адрозьненьне ад напружанай атмасьферы ў час візіту ў Чэхію ў 1995 годзе, калі пратэстанты байкатавалі папскі візіт, гэтым разам сустрэчы з прадстаўнікамі пратэстантаў і праваслаўных прайшлі ў атмасферы прыязьні і ўзаемаразуменьня.

## Новы апостальскі экзархат для славацкіх грэка-каталікаў

Нядаўна ў славацкім горадзе Кошыцэ адбылася ўрачыстая цырымонія заснаваньня новага апостальскага экзархату для грэка-каталікаў. Першым экзархам прызначаны член ордэну рэдэмптарыстаў біскуп Мілан Хаўтур. На цырымоніі інаўгурацыі прысутнічалі апостальскі нунцый у Славакіі архібіскуп Луіджы Дассэна і дзесяць іншых каталіцкіх біскупаў Славакіі, Чэхіі і Венгрыі, а таксама прадстаўнікі ўлады. Напрыканцы богаслужэньня прадстаўнік Кангрэгацыі Усходніх Цэркваў а. Марко Броджы зачытаў прывітальнае пасланьне прэфекта кангрэгацыі кардынала Ахілеса Сільвестрыні, у якім прагучаў заклік да славацкіх грэка-каталікаў берагчы традыцыі Грэка-Каталіцкай Царквы.

## Сьвяты Айцец наведаў Ліван

10 траўня Рымскі Архірэй пабываў з аднадзённым візітам у Ліване. Яна Паўла II у аэрапорце сустракаў прэзідэнт Лівану Ільяс Храўі. З ім, а таксама з главой мараніцкай Царквы кардыналам Буртасам Сфейрам меў сустрэчу Ян Павел II. У саборы ліванскай Божай Маці, які разьмешчаны за 20 кіламетраў ад Бейрута, Ян Павел II зьвярнуўся да вернікаў.

Гэта быў першы пасьля 1964 году візіт главы Рыма-Каталіцкай Царквы ў такі выбухованебясьпечны рэгіён, якім ёсьць Блізкі Ўсход. Візіт праходзіў пры ўзмоцненых сродках бясьпекі. У Бейруце на вуліцы былі выведзены танкі і бронетранспарцёры, у паветра падымаліся вайсковыя самалёты.

## Грэка-каталікі Латвіі

Сёньня ў Латвіі існуе тры парафіі Грэка-каталіцкай Царквы, якія дзейнічаюць у Рызе, Рэзэкнэ і — найбольшая — у Даўгаўпілсе. Парафіі знаходзяцца пад юрысдыкцыяй Львоўскай архіепархіі Украінскай Грэка-Каталіцкай Царквы.

Грэка-каталіцкая супольнасьць Латвіі яшчэ невялікая, бо праца фактычна толькі пачалася ўвосень мінулага году. Грэка-каталіцтва сёньня для Латвіі зьява абсалютна новая, аднак да савецкай акупацыі Латвіі тут была пэўная традыцыя, былі храмы і нават манастыр айцоў-базыльянаў. Сёньня служыць прыходзіцца ў сьпецыяльна прыстасаваных памяшканьнях, якімі дзеляцца рыма-каталікі.

Сярод мясцовых грэка-каталікаў пераважная большасьць — людзі з інтэлігенцыі, якія дагэтуль не практыкавалі ні ў воднай з канфесіяў, хоць увесь час цікавіліся рэлігійна-філасофскімі праблемамі, заходзілі ў храмы. Большасьць у дзяцінстве былі хрышчаны ў Праваслаўнай Царкве, асобныя — у Каталіцкай ці стараабрадніцкай. Частку грэка-каталіцкай супольнасьці Латвіі складаюць маладыя людзі, якія прыйшлі "з вуліцы", дзякуючы катэхетычнай дзейнасьці, нязначная частка парафіянаў — колішнія вернікі Праваслаўнай Царквы, якія вырашылі перайсьці ў грэка-каталіцтва. Грэка-каталіцкія супольнасьці Латвіі шматнацыянальныя: ёсьць расейцы, украінцы, латышы, беларусы, габрэі. Таму богаслужэньні адбываюцца таксама на розных мовах — на царкоўна-славянскай, на расейскай, латышскай. Ня выключана, што будуць службы і на іншых мовах, калі ўзьнікне такая патрэба.

З трох грэка-каталіцкіх сьвятароў, якія абслугоўваюць латвійскія парафіі, двое — колішнія ерэі РПЦ, якія нядаўна прынялі каталіцкую веру. Так, у Рызе служыць а. Валерый Сьвілкст, які ў свой час быў сакратаром епіскапа Праваслаўнай Царквы Латвіі, а. Эміль Крупеньнікаў раней зьяўляўся настаяцелем вялікага прыходу ў Рэзэкнэ. Па словах а. Э.Крупеньнікава, пераходу ў Грэка-Каталіцкую Царкву паспрыялі ўласныя дасьледаваньні ў галіне царкоўнай гісторыі і багаслоўя, а таксама ўнутраная надзвычайна цяжкая і балючая сітуацыя ў РПЦ, у якой шырацца падзелы. Сёньня ў Латвіі ёсьць тры Праваслаўныя Царквы, кожная з якіх прэтэндуе на ісьціннасьць і кананічнасьць, што прыводзіць да процістаяньня і расчараваньня вернікаў.

## Кангрэс "Еўхарыстыя і свабода"

27-31 траўня ў Вроцлаве будзе праходзіць 46-ы Міжнародны Еўхарыстычны Кангрэс пад лозунгам "Еўхарыстыя і свабода". Рымскі Архірэй мае намер узяць удзел у ягонай працы. За арганізацыю і правядзеньне сходу адпавядае генеральны сакратар Папскай Рады айцец Фердынанд Працнэр. Месцам, дзе адбудзецца гэтая падзея сусьветнага значэньня, абраны вроцлаўскі зал Кангрэсу.

Чакаецца, што Міжнародны Еўхарыстычны Кангрэс зьбярэ 6000 удзельнікаў. 70 епархіяў пацьвердзілі сваё прадстаўніцтва на сусьветным сходзе. 500 тысячаў вернікаў сьвету, пераважна з колішніх сацыялістычных краінаў, зьбяруцца на гэтым Кангрэсе.

Кангрэс у Вроцлаве мае намер адведаць заснавальніца ордэну місіянерак міласэрнасьці 86-гадовая Маці Тэрэза. Медыкі прыйшлі да высновы, што стан здароўя дазволіць ёй таксама зьдзейсьніць падарожжа ў Рым на цырымонію прынясеньня манаскіх абетаў новымі манахінямі ордэну місіянерак міласэрнасьці.

# Архімандрыт Сяргей Гаек — член-карэспандэнт Папскай Міжнароднай Марыйнай Акадэміі

Сакратарыят Папскай Міжнароднай Марыйнай Акадэміі *(Pontificia Academia Mariana Internationalis)* у лісьце ад 11 красавіка 1997 году падала да ведама, што Рада Акадэміі на пасяджэньні 20 лістапада 1996 году выбрала айца архімандрыта Сяргея Гаека МІС (доктара Ўсходніх Царкоўных Навук —S.E.O.D.) членам-карэспандэнтам гэтай Акадэміі. Гэта ёсьць прызнаньне ўкладу айца Сяргея ў XII Міжнародны Марыялагічны Кангрэс, які праходзіў 18-24 жніўня 1996 года ў Чэнстахове (Польшча). На пленуме Кангрэсу вялікае прызнаньне атрымаў ягоны даклад на тэму "Усьпеньне Дзевы-Маці і Яе Пакроў над народам Божым паводле літургіі грэка-славянскай Царквы", які тлумачыўся на шмат моваў.

Папская Міжнародная Марыйная Акадэмія зьўляецца зьвязанай з Кангрэгацыяй Навукі Веры, а таксама з Папскай Радай у справах культуры, якая адказная за каардынаваньне супрацоўніцтва з іншымі Папскімі Акадэміямі.

# Да пытаньня пра адзіную дату сьвяткаваньня Пасхі

Па ініцыятыве Сусьветнай Рады Цэркваў і Блізкаўсходняй Рады Цэркваў адбылася нарада прадстаўнікоў розных хрысьціянскіх канфесіяў адносна магчымасьці ўстанаўленьня адзінай для заходніх і ўсходніх хрысьціянаў даты сьвяткаваньня Пасхі. Удзельнікі нарады пагадзіліся з тым, што сучасная астранамічная навука здатная дапамагчы знайсьці вырашэньне гэтай праблемы. У нарадзе бралі ўдзел прадстаўнікі Англіканскага Саюзу Цэркваў, Армянскай Апостальскай Царквы, Папскай Рады па пытаньнях хрысьціянскай еднасьці, Усяленскага Патрыярхату, Евангелічных Цэркваў Блізкага Ўсходу, Праваслаўнага Антыёхскага Патрыярхату, Сусьветнай Лютаранскай Федэрацыі, Блізкаўсходняй Рады Цэркваў, Старакаталіцкіх Цэркваў Утрэхтскай Уніі, Маскоўскага Патрыярхату, адвентысты сёмага дня. На нарадзе прысутнічалі таксама кансультанты ад Праваслаўнай Царквы ў Амерыцы і Канадзкага аб'яднаньня пяцідзясятнікаў. Гаспадаром сходу выступіла Сірыйская Праваслаўная Царква.

На працягу многіх стагоддзяў хрысьціяне на Захадзе і Ўсходзе вылічваюць дату сьвяткаваньня Сьветлага Ўваскрасеньня Хрыстовага, кіруючыся рознымі пасхаліямі. Разам з тым, у аснову абодвух пасхаліяў пакладзены адзін прынцып, які быў сфармуляваны ў 325 годзе І Усяленскім Саборам у Нікеі. Паводле яго, Пасха павінна сьвяткавацца ў нядзелю, якая ідзе пасьля першага поўнага месяца пасьля веснавога раўнадзенства. Але Захад і Ўсход па-рознаму вылічваюць дзень раўнадзенства і поўнага месяца.

На нарадзе ў Алепа было прапанавана, каб, пачынаючы з 2001 году, дата сьвяткаваньня Пасхі вызначалася б з улікам сучасных астранамічных вызначэньняў. У гэтым выпадку будзе вытрыманы "нікейскі прынцып", і ніводная з Цэркваў не павінна будзе штосьці зьмяняць у сваіх традыцыях.

Вынікі астранамічных назіраньняў залежаць ад таго, з якога пункту Зямлі яны зьдзяйсьняюцца. На нарадзе прагучала прапанова ўважаць такім пунктам мерыдыян, што праходзіць праз Ерусалім, дзе ўкрыжаваны, быў расьпяты і ўваскрос Ісус Хрыстос.

Гэтую прапанову разашлюць хрысьціянскім Цэрквам усяго сьвету. Акрамя таго, адрасаты атрымаюць дадатак — пасхалію на першыя 25 гадоў XXI стагоддзя, у якой, разам з датамі сьвяткаваньня Пасхі паводле новага метаду, будуць указаныя і традыцыйныя для Захаду і Ўсходу даты.

Усе ўдзельнікі нарады прызналі, што розьніца ў вылічэньні сьвяткаваньня Пасхі ня мае верапавучальнага значэньня, аднак падкрэсьлілі, што ў мінулым намаганьні пераадолець каляндарныя разыходжаньні неаднаразова нараджалі новыя расколы.

Разам з тым, удзельнікі нарады вырашылі, што ў пытаньні пра ўвядзеньне адзінай даты сьвяткаваньня Пасхі неабходна выяўляць асьцярожнасьць. Невыпадкова прапанавана ўвесьці новую пасхалію ў 2001 годзе, калі Захад і Ўсход будуць сьвяткаваць Пасху ў адзін дзень — 15 красавіка. Новая пасхалія павінна быць прынятая пасьля разгляду гэтай прапановы кожнай Царквой. Удзельнікі нарады зьвярнуліся да Сусьветнай Рады Цэркваў з прапановай правесьці праз нейкі час сустрэчу, на якой можна будзе абгаварыць рэакцыю на месцах.

# Форум у Грацы — унікальная магчымасьць для дыялогу

II Еўрапейская Экуменічная Асамблея, якая адбудзецца ў аўстрыйскім горадзе Грац 23-29 чэрвеня 1997 году павінна стаць найбольшай экуменічнай падзеяй у Еўропе ў перыяд да канца XX стагоддзя. Яна праводзіцца па ініцыятыве рыма-каталіцкай Рады Еўрапейскіх Канферэнцыяў Біскупаў і Канферэнцыі Еўрапейскіх Цэркваў, да складу якой належыць 119 праваслаўных, англіканскіх, старакаталіцкіх і традыцыйных пратэстанцкіх Цэркваў Еўропы.

У гэтым экуменічным форуме павінны ўзяць удзел каля 8000 асобаў, у тым ліку 700 афіцыйных дэлегатаў.

Як паведаміў прадстаўнік Канферэнцыі Еўрапейскіх Цэркваў, у Асамблеі ў Грацы будуць браць удзел Патрыярх Канстанцінопальскі Варфаламей і Маскоўскі Алексій. Гэта значыць, што яны будуць мець добрую магчымасьць для сустрэчы. Стасункі паміж патрыярхамі асабліва рэзка пагоршыліся з-за пытаньня пра юрысдыкцыю над праваслаўнымі прыходамі Эстоніі.

# Кардынал Ражэ Этчэгэрэй наведаў Украіну

З 7 па 11 траўня ў Львове перабываў з візітам глава папскай камісіі за справядлівасьць і мір кардынал Ражэ Этчэгэрэй, які, акрамя таго, узначальвае камітэт па сьвяткаваньні 2000-гадовага юбілею Раства Хрыстовага. Мэтаю ягонага візіту было азнаямленьне з жыцьцём рыма- і грэка-каталіцкага епіскапатаў Львова.

Ён узяў удзел у канферэнцыі епіскапату Рыма-Каталіцкай Царквы, наведаў экспазіцыю, што прысьвечана блаславёнаму Джорджо Фрасацьці, якая разьмясьцілася ў Львоўскай Багаслоўскай Акадэміі, зьезьдзіў на Тэрнопальшчыну ў с.Язлоўцы, дзе пабываў на магіле блаславёнай Марцаліны Дароўскай. На богаслужэньне падзякі за беатыфікацыю блажэннай Марцаліны Дароўскай, якое адправіў рыма-каталіцкі мітрапаліт Львоўскі Мар'ян Яворскі і на якім прысутнічаў кардынал Р.Этчэгэрэй, а таксама біскуп-памочнік главы УГКЦ Любамір Гузар, біскуп УГКЦ Сафрон Дмытэрка, біскупы РКЦ Ян Альшанскі і Станіслаў Падэўскі, сабралоася каля 1000 католікаў абодвух абрадаў.

# Прафесар праваслаўнага ўніверсітэту пра РПЦ

Адзін з аўтараў вядомага ў мінулым у Расіі альманаху "Метраполь", а сёньня — прафесар Расійскага праваслаўнага ўніверсітэту Віктар Тростнікаў апублікаваў у газеце "Праўда-5" артыкул, у якім сьцьвярджае, што працэсы, якія адбываюцца ў Рускай Праваслаўнай Царкве, могуць прывесьці да таго, што ў хуткім часе яна стане патрэбнай толькі "кліру і царкоўным старастам, якія кормяцца ў ёй". На Тростнікава аказалі таксама цяжкае ўражаньне і сьвяточныя пасланьні Патрыярха Алексія, поўныя "нуды і казёншчыны", і праграма "Слова пастыра", якую вядзе мітрапаліт Кірыл, і "бяздушнае стаўленьне епіскапату да сярэдняга сьвятарства, поўнае ігнараваньня ім лістоў і зваротаў прыхадзкіх бацюшак і іх паствы да Сіноду і асабіста да Патрыярха". Прафесар Тростнікаў папярэджвае, што калі "кіраўнікі нашай Царквы не прыслухаюцца да голасу народу, іх чакае тая самая трагічная доля, што і іх папярэднікаў, якія жылі 100 гадоў таму".

*Інфармацыя падрыхтавана паводле паведамленьняў Агенцтва рэлігійнай інфармацыі (АРІ), Каталіцкага інфармацыйнага агенцтва (КАІ) і іншых прэсавых крыніцаў.*

# Найсьвяцейшая Тайна Еўхарыстыі

Найсьвяцейшую Тайну Еўхарыстыі (Прычасьце) устанавіў Сам Ісус Хрыстос на апошняй Вячэры, калі ўзяў хлеб і віно і, блаславіўшы, падаў апосталам, гаворачы: "Гэта ёсць Цела Маё, якое за вас выдаецца: гэта рабіце на Мой успамін... Гэта чаша Новага Запавету ў Крыві Маёй, якая за вас будзе пралітая" (Лк 22, 7-20). І ад самага свайго пачатку Царква прыносіць і да канца сьвету будзе прыносіць гэтую вялікую ахвяру.

Хрыстос паступова рыхтаваў Апосталаў і народ да гэтай Тайны. Ён двойчы цудоўна памножыў хлябы для галоднага народу. Ён казаў пра Сябе: "Я той Хлеб, што зыйшоў з неба" (Ян 6, 41).

Еўхарыстыя (з грэцкай мовы — падзяка) — гэта цэнтр і вяршыня хрысьціянскага жыцьця, найсьвяцейшая і найбольшая Тайна Новага Запавету, крыніца ўсіх іншых Тайнаў. Калі ўсе астатнія Тайны месьцяць ласку Божую, то Найсьвяцейшая Еўхарыстыя месьціць у сабе Самога Даўцу ўсіх ласкаў — Ісуса Хрыста.

Айцы Царквы (Гіпаліт, Яўсевій ды інш.) называюць Найсьвяцейшую Еўхарыстыю "містычнаю і Боскаю ежаю", "Гасподняю трапезаю", "Божым Хлебам", "чашаю падзякі". Найсьвяцейшая Еўхарыстыя ад самага пачатку хрысьціянства была адзнакаю хрысьціянаў. Яна аб'ядноўвала Хрыстовых пасьлядоўнікаў у адну Божую сям'ю. "Апосталы заўсёды перабывалі ў ... навуцы і супольнасьці на ламаньні хлеба і ў малітве" (Дз 2, 4).

Найсьвяцейшая Еўхарыстыя месьціць у сабе ўспамін аб нараджэньні, служэньні, укрыжаваньні, уваскрасеньні і ўзьнясеньні на Неба Ісуса Хрыста.

Звычайна Найсьвяцейшую Еўхарыстыю адпраўляюць у царкве ці капліцы (але пры неабходнасьці гэтую Тайну можна адправіць усюды) падчас сьв. Літургіі. У кожным храме пад выглядам хлеба і віна прысутнічае Сам Ісус Хрыстос. Найсьвяцейшая Еўхарыстыя, якая знаходзіцца ў алтары, зьяўляецца найвялікшай сьвятыняй, якая нязьмерна пераўвышае па сваёй сьвятасьці любыя цудатворныя іконы і рэліквіі. Таму, калі мы ўваходзім і выходзім з царквы, мы павінны аддаваць паклон Сьвятым Тайнам.

Сьв. Літургія — Служба Божая — зьяўляецца нашай падзякай, якую мы складаем Госпаду за ўсе ягоныя дабрадзействы. Гэта бяскроўная ахвяра Новага Запавету, якая па сваёй сутнасьці зьяўляецца той самаю ахвяраю, якую прынёс Хрыстос на крыжы. Разам з намі Сам Ісус Хрыстос моліцца да Бога Айца за Царкву, за нашых сваякоў і бліжніх, за хворых, за грэшнікаў, увогуле за ўсіх, якія маюць патрэбу ў Божай дапамозе. Таму вельмі карысна замаўляць Службы Божыя за жывых і памёрлых. Адпраўляць Службы Божыя можна нават за грэшнікаў і няверных (напрыклад за іх навяртаньне). Літургія ня правіцца за тых памёрлых, якія былі адлучаныя ад Царквы ці адракліся ад яе з уласнай волі і не паядналіся з ёю нават перад сьмерцю, а таксама за нераскаяных яўных грэшнікаў.

Еўхарыстычная ахвяра прыносіцца Ісусам Хрыстом праз сьвятара або біскупа. Для Літургіі выкарыстоўваецца чыстае сухое вінаграднае віно і хлеб (квасны — ва ўсходнім абрадзе, прэсныя аплаткі — у лацінскім).

Царква заахвочвае верных прычашчацца як можна часьцей, нават кожны дзень. Сьв. Васіль Вялікі піша: "Добра і карысна кожны дзень прымаць Сьвятое Прычасьце і браць удзел у Найсьвяцейшым Целе і Крыві Хрыста. Хто мог бы сумнявацца, што заўсёды, беручы ўдзел у Жыцьці, будзем жыць поўным жыцьцём?" Але тыя, якія жадаюць прычашчацца штодзённа, павінны быць у стане ласкі Божай, мець намер мацней зьядпацца з Богам, старацца ўнікаць нават паўсядзённых грахоў. Тым, хто часта прычашчаецца, раіцца спавядацца не радзей, чым раз у месяц. Увогуле, кожны хрысьціянін павінен хоць раз у год, у велікодным часе, прычасьціцца. Таксама ён павінен імкнуцца атрымаць прычасьце перад сьмерцю і пры яе небясьпецы.

Прычасьціцца мае права толькі ахрышчаны чалавек. Каб прычасьце было збаўленчым, патрэбна, каб той, хто прымае Еўхарыстыю, быў у стане ласкі Божай, ня меў на сумленьні ніводнага цяжкага граху. Бо калі мы прыступаем да Сьвятога Прычасьця, маючы цяжкі грэх, з якога не паспавядаліся, то гэтым насьледуем Юду Іскарыёта, прычашчаемся сабе на суд, а не на збаўленьне. У Каталіцкай Царкве таксама трэба захаваць еўхарыстычны пост, які абавязвае адну гадзіну перад прычасьцем устрымацца ад ежы і напояў. Акрамя таго, трэба мець прыстойны вонкавы выгляд, чыстае і сьціплае адзеньне. У нашай Грэка-Каталіцкай Царкве няма такіх патрабаваньняў, якія ёсьць у Праваслаўнай Царкве: жанчыны павінны быць з пакрытаю галавою, ня мець на твары касьметыкі і г.д. Але памятайма, што ідучы да Прычасьця, мы ідзём на сустрэчу з Самім Госпадам. Не зьяўляюцца таксама перашкодай да прычасьця ні хваробы, ні інтымныя адносіны паміж мужам і жонкаю напярэдадні, ні цыкл у жанчыны. Ва ўсходнім абрадзе можна прычашчаць і дзяцей.

Калі няма сьвятара, раздаваць раней асьвячаныя Сьвятыя Дары можа і дыякан. У крайнім выпадку ў экстрэмальнай сітуацыі нават сьвецкі чалавек можа сам сябе прычасьціць.

Да прычасьця прыступаюць скрыжаваўшы рукі на грудзях. Аднак у розных каталіцкіх парафіях існуюць розныя формы прыняцьця прычасьця: стоячы або на каленях. Найлепей трымацца агульнапрынятых у кожнай канкрэтнай парафіі традыцыяў, але заўсёды да прычасьця трэба прыступаць з глыбокай павагай. Пасьля атрыманьня прычасьця і завяршэньня сьв. Літургіі прычасьнікі чытаюць малітвы падзякі.

Пры адсутнасьці свайго сьвятара грэка-католікі маюць права прымаць прычасьце ў рыма-каталіцкім касьцёле.

Кожны раз, калі Царква зьдзяйсьняе Найсьвяцейшую Еўхарыстыю, яна ня толькі абвяшчае прысутнасьць Ісуса Хрыста сярод сваіх дзяцей, але і чакае Ягонае слаўнае Другое прыйсьце. "Прыйдзі, Госпадзе Ісусе" (Адкр 22, 20). Мы павінны карыстацца з гэтых шчодрых дароў, дадзеных нам нашым Госпадам.

Прымаючы Цела і Кроў Госпада Ісуса Хрыста, мы паглыбляем нашае адзінства з Ім, атрымліваем надзею на нашае ўваскрасеньне. Прычасьце аберагае нас ад грахоў, прабачае паўсядзённыя грахі, адпускае частку дачаснай кары за іх. Праз прычасьце мы яднаемся з усімі членамі Царквы — містычнага Цела Хрыстовага. Сьв. Аўгустын называе Еўхарыстыю "знакам еднасьці". Яна ўмацоўвае пабожнасьць душаў, павялічвае любоў, веру, надзею.

*(Працяг будзе)*

**Яўген Петухоў**
*г. Берасьце*



## Сьвятыя тайны Хрыстовай Царквы

# Беларускія ерархі ў Ватыкане

На пачатку красавіка 1997 году ў Рыме знаходзіліся прадстаўнікі Каталіцкай Царквы ў Беларусі. Кардынал Казімір Сьвёнтак і біскуп Аляксандр Кашкевіч (ардынарый гарадзенскі) былі прынятыя Рымскім Архірэем Янам Паўлам II на аўдыенцыі 7 красавіка ў рамках візіту *"ad limina Apostolorum"*. Таксама 9 красавіка Ян Павел II прыняў на аўдыенцыі Візітатара *"ad nutum Sanctae Sedis"* для грэка-католікаў у Беларусі архімандрыта Сяргея Гаека. Інфармацыя пра гэта была зьмешчана ў газеце *"L'Osservatore Romano"* 10 красавіка 1997 году.

Абавязак наведваньня біскупамі Вечнага Гораду зыходзіць са шматвяковай традыцыі Ўсяленскай Царквы, ёні выражаны ў Кодэксе Кананічнага Права. Біскупы, якія нясуць адказнасьць за свае памесныя Цэрквы, яшчэ ў першыя часы хрысьціянства прыбывалі ў Рым, каб сваёй малітвай ля грабніцаў сьвятых Апосталаў і наведваньнем Сьвятога Айца — спадкаемцы пасада сьв. Пятра — выказаць сваю еднасьць з усёй Усяленскай Царквой. Ужо ў 343 годзе сінод прадпісваў біскупам інфармаваць Рымскага Архірэя пра стан спраў ва ўласнай Епархіі. З цягам часу замацаваўся тэрмін — 5 гадоў, на працягу якога біскупам неабходна было зьдзейсьніць паломніцтва *"ad limina Apostolorum"*.

У Рыме знаходзяцца найстарэйшыя і найвядомейшыя хрысьціянскія сьвятыні — базілікі сьв. Пятра і Паўла, сьв. Агнесы, Еўфрасіньні і Цэцыліі, сьв. мучаніка Лаўрэнція, якія пабудаваныя ў памяць першых хрысьціянскіх мучанікаў на месцах іх пахаваньня. Таму, лічыцца, што паломніцтва ў гэтыя сьвятыя мясьціны дае асаблівую ласку Божую і водпуст (адпушчэньне грахоў і правінаў).

Візіт біскупаў, якія кіруюць Каталіцкай Царквой у Беларусі, у Апостальскую Сталіцу меў тры асноўныя мэты. Першая і найважнейшая — гэта сустрэча з Рымскім Архірэем Янам Паўлам II і сумеснае служэньне з ім Сьвятой Імшы за вернікаў Каталіцкай Царквы ў Беларусі. Сьвятая Імша была адслужана ў чатырох галоўных базіліках Рыму, пры грабніцах сьвятых Апосталаў: сьв. Пятра і сьв. Паўла, у базіліцы сьв. Яна і ў найбольшай базіліцы Маці Божай. У апошняй з іх беларускі біскуп адслужыў Сьвятую Імшу перад алтаром Маці Божай, якая мае назоў *Salus Populi Romani* (Збаўленьне Рымскага Народу). Копіяй абраза з гэтай базілікі зьяўляецца ікона Маці Божай Кангрэгацкай, якая знаходзіцца ў гарадзенскім кафедральным храме. Акрамя гэтага, мэтай візіту *"ad limina"* было наведваньне біскупамі Ватыканскай Курыі, якая дапамагае Рымскаму Архірэю ў папячэньні і кіраваньні Ўсяленскай Царквой. Ватыкан атрымаў ад беларускіх біскупаў падрабязныя справаздачы пра жыцьцё Царквы ў Беларусі за апошнія пяць гадоў, у якіх адлюстраваныя ўсе дасягненьні і праблемы нашай Царквы.

Згаданы візіт *"ad limina"* беларускіх біскупаў у Апостальскую Сталіцу быў першым у гісторыі Царквы ў Беларусі.

**Вікенцій Верамяюк**


*Ватыкан, 7.04.97. Ян Павел II прымае кардынала Казіміра Сьвёнтка.*


*Рым. Basilica di Santa Maria in Cosmedin.*

## Усходняя літургія за Беларусь

У нядзелю 6 красавіка 1997 году ў рымскай базіліцы Найсьвяцейшай Багародзіцы *(Basilica di Santa Maria in Cosmedin)*, якая належыць Каталіцкай Мельхіцкай Царкве Антыёхскага Патрыярхату, была адпраўлена ўсходняя літургія ў мельхіцка-візантыйскім абрадзе. Сьвятую Літургію служылі архімандрыт Эліяс Жараўан (Каталіцкая Мельхіцкая Царква) і архімандрыт Сяргей Гаек. У літургіі ўдзельнічалі, акрамя парафіянаў грэка-католікаў мельхітаў з Блізкага Ўсходу, якія жывуць у Рыме, таксама і італьянскія сябры Беларусі.

Падчас сьв. Літургіі асабліва маліліся за Беларусь і Беларускую Грэка-Каталіцкую Царкву.


*Рым. Алтар базілікі Santa Maria in Cosmedin.*

# Слова Рымскага Архірэя Яна Паўла II на сустрэчы з беларускімі біскупамі

*ВЫСОКАШАНОЎНЫ ЭМІНЭНЦА КАРДЫНАЛ, ДАРАГІ МОНСІНЬЁР, БІСКУП ГРОДЗЕНСКІ!*

1. "Мір хай будзе з вамі" (Мт 28, 9). Я з радасьцю сустракаю вас гэтым прывітаньнем уваскросшага Хрыста. Яго накіроўваю цераз вас усім Царкоўным грамадам вашае любімае краіны, якія, дзякуючы Божаму Праведу, жывуць у перыядзе вясны, пасьля зімы жорсткіх перасьледаваньняў, што цягнуліся доўгія дзясяткі гадоў. Гэтыя перасьледаваньні выявіліся ў сістэматычнай атэізацыі народу, асабліва моладзі, у амаль поўным зьнішчэньні царкоўных структур, як таксама і ў прымусовым закрыцьці месцаў, у якіх ствáралася хрысьціянская фармацыя.

Знаходзячыся перад абліччам цяперашняга духоўнага адраджэньня, як не падзякаваць, перад усім, Госпаду, які адкрыў вам дзьверы свабоды веравызнаньня, нават калі гэтая свабода яшчэ памяркоўная, ды ўзбудзіў сэрцы, каб дазволіць увайсьці ў вашую краіну маладым сьвятарскім і манашым сілам, увайсьці разам з пабудоваю ці рэстаўрацыяй шматлікіх цэркваў і капліц? Гэта было зроблена дзякуючы таксама салідарнай дапамозе шматлікіх братоў і сёстраў, расьцярушаных па ўсім сьвеце, якім я вельмі ўдзячны. Богу, Айцу дабраты, які ў рэшце выслухаў крык свайго прыгнечанага народу, ды таксама шматлікім мужчынам і жанчынам добрае волі, якія сталіся прыладамі ягонае турботы, накіраваная нашая сардэчная падзяка за прагрэс адбудовы ў Беларусі ячэйкі царкоўнае супольнасьці, хаця гэты прагрэс і праходзіць сярод вялікіх цяжкасцей.



*Ватыкан, 7.04.97. Падчас сустрэчы з прадстаўнікамі Беларускай Каталіцкай Царквы. Ян Павел II з біскупам Аляксандрам Кашкевічам.*

2. Гэтая праца "фізічнае" і духоўнае адбудовы вашае Краіны была дацэненая тры гады таму назад, праз прызнаньне ўладамі юрыдычнае асабістасьці Мінска-Магілёўскай Архідыяцэзыі і Пінскае дыяцэзыі. Таксама сталі паволі бачнымі сувязі з Апостальскаю Сталіцаю ў выніку назначэньня і прысутнасьці *"in loco"* Прадстаўніка Папы. Гэта знак маёй асаблівае турботы і любові да вашае мясцовае Царквы і да ўсёй Беларусі.

Я ўпэўнены, што распачаты шлях будзе і надалей працягвацца, адпаведна з устаноўленымі і яшчэ абяцанымі ўзаемнымі двухбаковымі пагадненьнямі, на карысьць як асоб — неграмадзян Беларусі, што цяпер разьвіваюць сваю шчодрую апостальскую працу ў краіне, так і на карысьць Устаноў законьнікаў і законьніц, якія жадаюць адкрыць свае дамы на Беларусі згодна з праўным прызнаваньнем і адміністрацыйнымі правіламі.

Каталіцкая Царква жадае быць, таксама і на Беларусі, знакам надзеі для ўсіх тых, што аддаюць свае сілы для лепшае будучыні ў міры і згодзе паміж усімі. Намаганьне душпастырскага ўладкаваньня Гродзенскай дыяцэзыі ды заангажаваньне Мінска-Магілёўскага і Пінскага дыяцэзальнага Сіноду заслугоўваюць заахвочаньня і падтрымкі.

3. Шаноўныя Браты ў Біскупстве! Раздумваючы над вашай руплівасьцю ды таксама руплівасьцю сьвятароў, законьнікаў, законьніц ды сьвецкіх асоб, немагчыма не глядзець з даверліваю адказнасьцю ў будучыню. Вас падтрымлівае сьвядомасьць любові да Бога, які кіруе душамі людзей і мае ў сваіх руках прызначэньне гісторыі. Вамі кіруе Найсьвятая Дзева Марыя, абажаная і ўшанаваная вашымі людзьмі, асабліва ў Сьвятыні ў Будславе.

З душою, суцешанаю гэтымі пэўнасьцямі, жадаю цяпер затрымацца на тым, каб разам з вамі абмеркаваць некаторыя сур'ёзныя сацыяльныя і рэлігійныя пытаньні, якія ў вашай справаздачы з апошніх 5-ці гадоў вы жадалі прадставіць Біскупу Рыму згодна з візітам *"ad limina Apostolorum"*.

Вас непакоіць культурная, сацыяльная, эканамічная і палітычная сітуацыя вашае Краіны, сітуацыя, якая выглядае цяжкаю і нестабільнаю. Вас клапоціць таксама ўзрастаючае зьбядненьне шырокіх колаў грамадзтва, што нараджае ў некаторых людзях небясьпечную тугу па мінуўшчыне.

На гэтыя праблемы вы зьвяртаеце пастаянную ўвагу, гатовыя даваць рознага роду прапановы для іх вырашэньня. Вашыя клопаты пастаянна накіроўваюцца на рэлігійныя тэрміновыя патрэбы, добра абмеркаваныя падчас размоваў у гэтыя дні. Перад усім вас вельмі клапоціць апека над сьвятарамі ды іх фармацыя, бо яны, сьвятары, узрушваюць міранаў ды хрысьціянскія супольнасьці на духоўнае абуджэньне. Да іх накіроўваецца мая ўдзячная думка, таму што іхняе служэньне асабліва цяжкае, і я гэта поўнасьцю ўсьведамляю.

Пасьля многіх гадоў пакінутасьці, асяроддзе, у якім сьвятары працуюць, часта сапраўды варожае, глеба, якую трэба асвойваць, поўная парасткаў і кустоў. Вернікі параскіданыя вельмі шырока ды надалей яшчэ перастрашаныя. Сьвятарам часам цяжка вытрымаць самотнасьць, бо яны нярэдка, дзеля пастырскіх патрэб, жывуць далёка адзін ад аднаго. Часта яны рознага паходжаньня і фармацыі, жыцьцёвага дасьведчаньня і ментальнасьці.

Дарагія сьвятары, я добра разумею гэтыя вашыя цяжкасьці. Зьвяртаюся да вас з любоўю, вас абдымаю і паўтараю вам заклік, які накіраваў на пачатку майго Пантыфікату да ўсяе Сусьветнае Царквы: "Ня бойцеся", "Адкрыйце дзьверы Хрысту" *(Insegnamenti di Giovanni Paolo II, vol.I, p.38)*. Госпад Ісус Хрыстос перамог сьвет (Ян 16, 33), і з Ім вы ўжо пераможцы.

Вам, любімыя Браты ў Біскупстве, ня варта раіць, што трэба любіць сваіх сьвятароў, падтрымліваць іх малітваю і сваёю прысутнасьцю, падмацоўваць словам ды таксама матарыяльна — усё гэта вы ўжо робіце з вялікаю адданасьцю. А мне выпадае толькі заахвоціць вас быць стойкімі ў гэтай справе. Працягвайце добрыя традыцыі штомесячных сустрэч усіх сьвятароў. Дзякуючы Божаму Праведу, сустрэча біскупа са сьвятарамі заўсёды зьяўляецца нагодаю да большага братэрства і да духоўнага ўзрастаньня. Працягвайце суправаджаць сьвятароў у іхнім асабістым аскетыч-

ным жыцьці і ў іхняй трывалай фармацыі, натхняючы іх указаньнямі Другога Ватыканскага Сабору ў напрамку сучасных патрэбаў. І няхай ніякія цяжкасьці вас не перастрашаць і не затрымаюць у вашым апостальскім натхненьні!

4. У тым, што тычыцца фармацыі, думаю ня толькі аб той сталай, прызначанай для сьвятароў, але і аб падрыхтоўцы кандыдатаў на сьвятарства. Ці, часам, ня ёсьць гэта найбольш пільная патрэба? Вылучаць ахвотнікаў, турбавацца аб іхнім пакліканьні, сачыць за іхняю адукацыйнаю дарогаю — гэта абавязак, ад якога залежыць будучыня Царквы ў краіне. Неабходна падрыхтоўваць уласных сьвятароў, якія паступова зоймуць месцы тых, што прыбылі з іншых краін ды поўнасьцю ахвяроўваюцца ў гэтыя гады



*Ватыкан, 9.04.97. Апостальскі візітатар архімандрыт Сяргей Гаек атрымлівае блаславеньне Рымскага Архірэя для рэдакцыі і чытачоў газеты "Царква".*

працы сярод вас. Падобнае намаганьне мусіць быць узьнятае Міждыяцэзальнаю Духоўнаю Семінарыяю ў Гродне, цяпер ужо аднаўленаю, якая зможа, такім чынам, паступова перайсьці пад кіраваньне Настаяцеляў і Настаўнікаў мясцовага паходжаньня. Самазразумела, фармацыя сьвятароў ня ёсьць лёгкаю; зараз яны пакліканыя быць *"homines Dei et hominum"* (Людзьмі для Бога і для людзей), калі яшчэ моцна адчуваюцца вынікі *"Homo sovieticus"*, створанага падчас многіх гадоў атэістычнага рэжыму. Але не паддавайцеся зьнеахвочваньню пад гэтым аглядам! Разьлічвайце хутчэй на аздараўленчыя ласкі Хрыста, на шчодрасьць, якая вынікае з пакліканьня самааддане любові ды на духоўную і шматбаковую працу Настаўнікаў.

"Жніво багатае, але работнікаў мала" (Мт 9, 37),— прыпамінае нам Ісус Хрыстос у Евангельлі. У чаканьні пладоў цяперашняга фармацыйнага заангажаваньня азірніцеся навакол і стукайцеся настойліва да замежных каталіцкіх суполак з мэтаю атрыманьня сьвятароў, законьнікаў і законьніц рознага паходжаньня, улічваючы таксама стаўленьне ўладаў да гэтага пытаньня.

На ніве манашага жыцьця вашым сьвятлом у гэтай дарозе і суцяшэньнем у цяжкасьцях няхай будзе Апостальскае Навучаньне *"Vita consecrata"* (Богу пасьвячанае жыцьцё), якое выяўляе ў спосаб больш дакладны пашану Царквы ў адносінах да жыцьця, пасьвячанага Богу: чым яно ёсьць; і адносна царкоўнага вычуцьця: што мусіць мець той, які ёсьць блізкім нашчадкам Хрыста.

5. Іншым аспэктам душпастырскае працы, які жадаю падкрэсьліць, ёсьць апостальства сярод інтэлігенцыі, менавіта сярод тых, што працуюць у розных галінах культуры. Гэта важны абавязак, пра які нам нельга забывацца таксама тады, калі, як я добра ведаю, вы аддаеце перавагу апецы над моладдзю і сям'ёю. І сапраўды, здаецца ўсё мае перавагу, калі ўлічваць, з аднаго боку, занядад грамадзтва ў галіне этыкі, а, з іншага боку, "савецкі" менталітэт, надалей прысутны ў большасьці звычайных людзей.

Трэба праграмаваць працу новай, адважнай і адпаведнай Эвангелізацыі ў зьмененай гістарычнай і сацыяльнай сітуацыі цяперашняга часу. Ахвяроўвайцеся ў гэтую эвангельскую дзейнасьць без перапынку, асабліва бяручы пад увагу Вялікую Гістарычную Сустрэчу Юбілею Двухтысячнага Году.

Новая Эвангелізацыя ня можа быць аддзеленай ад важнай праблемы разьвіцьця чалавека, бо яна павінна быць накіраваная на служэньне паасобнаму чалавеку і чалавечай асобе цалкам. Значны ўклад пад гэтым аглядам можа даць дзейнасьць "Карытасу". Цешуся з вамі тым, што гэтая дабрачынная арганізацыя зьяўляецца цэнтральнай структурай ва ўсіх трох беларускіх дыяцэзіях. Спадзяюся, што яна зможа разьвіцца ў пэўныя арганізацыі і ўстановы дзякуючы дапамозе шчырых і руплівых міранаў, якія будуць здольнымі і чульлівымі да патрэб найменшых, хворых, бедных, старэйшых асоб і тых, якія яшчэ шукаюць адпаведнае падрыхтоўкі да жыцьця.

Не магу закончыць гэтае нашае сустрэчы без таго, каб прыпомніць, што ў Беларусі дыялог з праваслаўнымі братамі і сёстрамі ня можа ня быць палегчаны тым, што і каталікі таксама могуць сказаць разам з імі: "Мы таксама тут". Самазразумела, што прысутнасьць і апостальская дзейнасьць Царквы, гэта ніякі ні "празэлітызм" і ні "місіянерства", так, як гэта часам адмоўна мяркуецца ў праваслаўных асяродках. Сьвятары тут прысутныя як Душпастыры стада, каб задаволіць патрэбы духоўнай дапамогі, на якую мае права кожны вернік.

Дык намагайцеся, з вашага боку, перад усім распачаць дыялог любові з тымі, што належаць да іншых рэлігій або ўвогуле не належаць да ніякай рэлігіі. На першым месцы дбайце пра братнія адносіны з тымі, з якімі нас спалучаюць — нягледзячы на тое, што мы яшчэ ня'маем поўнага адзінства — вартасьці Евангельля, Запаветы Шчасьця, Гасподняя малітва "Ойча Наш", ушанаваньне Маці Божай, тыя самыя сакраманты, тая самая Апостальская спадкаемнасьць, любоў да Царквы, што знаходзіць сваё адлюстраваньне ў таямніцы Найсьвятой Тройцы.

З імі, з іхнімі Душпастырамі праз ініцыятывы, якія тычацца супольнай чалавечай, культурнай, міласэрнай і рэлігійнай дзейнасьці, супрацоўніцтва зьяўляецца законным да той ступені, каб гэта не супярэчыла вернасьці *"depositum fidei"* (Залогу веры), і трэба заўсёды кіравацца ў гэтай справе разважлівасьцю і адвагаю.

Таму, што для вернікаў грэка-каталіцкага абраду на тэрыторыі Беларусі не існуе зараз устаноўленай герархіі, жадаю выкарыстаць гэтую нагоду, каб прывітаць і пабласлявіць таксама іх і запэўніць, што іхнія радасьці і смуткі, іхнія турботы і спадзяваньні, разам з перажываньнямі ўлюбёных вернікаў лацінскага абраду, зьяўляюцца таксама маімі і ўсяго чалавецтва *(Gaudium et spes, 1)*.

Вам і людзям, даручаным вашай душпастырскай апецы, надзяляю маё сардэчнае Блаславенства.

*(Друкуецца паводле беларускамоўнага тэксту з ватыканскай газеты "L'Osservatore Romano", № 80 (41518), 7-8 красавіка 1997 году. Стыль цалкам захаваны.)*

*Разьдзел з кнігі Сьвятога Айца Яна Паўла II*

# Пераступіць парог надзеі



## 25. Дыялог збаўленьня

***— Значыць, Сьвяты Айцец, Вы не сумняваецеся: у той перыяд гісторыі Касьцёла і сьвету патрэбны быў экуменічны сабор, такі, як Другі Ватыканскі, па стылі і зьмесьце "адрозны" ад дваццаці папярэдніх, пачынаючы ад Нікейскага ў 325 годзе да Першага Ватыканскага ў 1869 годзе.***

Другі Ватыканскі Сабор быў патрэбны не для таго, каб процістаяць якойсьці асаблівай ерасі, як гэта бывала ў першым тысячагоддзі. Ён быў патрэбны для таго, каб увайсьці ў гэты двухполюсны працэс: распачаць выхад хрысьціянства з падзелаў, што назапасіліся на працягу ўсяго мінаючага тысячагоддзя, і адначасова наноў распачаць, наколькі магчыма — супольна, евангелічную місію на парозе трэцяга тысячагоддзя.

З гэтага пункту погляду, як вы слушна заўважылі, Другі Ватыканскі Сабор адрозьніваецца ад папярэдніх Сабораў сваім стылем. Гэта не абарончы стыль. У саборавых дакументах не сустракаюцца словы: *anathema sit* (адлучаецца). Гэта стыль экуменічны, вялікая адкрытасьць дыялогу, які Павел VI назваў "дыялогам збаўленьня". Такі дыялог хрысьціяне павінны весьці ня толькі паміж сабою, але і з іншымі, нехрысьціянскімі рэлігіямі, з усім сьветам культуры і цывілізацыі, таксама з тымі, хто ня верыць. Бо ісьціна не прызнае ніякіх межаў. Яна — для ўсіх і для кожнага. А калі ісьціна гэта творыцца ў любові (пар. Эф 4, 15), тады яна становіцца яшчэ больш універсальнаю. Менавіта гэта і ёсьць стыль Другога Ватыканскага Сабору і дух, у якім ён быў праведзены.

Для будучыні і таксама ў будучыні застанецца гэты стыль і гэты дух істотнаю праўдаю аб Саборы, а ня спрэчкі паміж "наватарамі" і "кансерватарамі", спрэчкі палітычныя, а не рэлігійныя, катэгорыі, у якія намагаліся ўціснуць гэту падзею. Дух Другога Ватыканскага Сабору надоўга застанецца выклікам для ўсіх Цэркваў і заданьнем для кожнай.

На працягу дзесяцігоддзяў, якія праходзяць пасьля заканчэньня Другога Ватыканскага Сабору, відаць, як гэты выклік і гэта заданьне пастаянна падхопліваюцца ў розных асьпектах і ў розных маштабах. Сьведчаньнем гэтага — усе пасьлясаборавыя Сіноды: як генеральныя Сіноды біскупаў сьвету, якія склікае Папа, так і Сіноды паасобных дыяцэзій альбо касьцельных правінцый. Я ведаю з уласнага вопыту, у якой вялікай ступені гэты сінадальны метад адпавядае спадзяваньням розных колаў і які прыносіць плён. Сіноды, і ў першую чаргу дыяцэзіяльныя, як бы міжволі пазбыліся даўняй клерыкальнай аднабаковасьці і сталі сродкам выяўленьня адказнасьці за Касьцёл з боку ўсіх. Гэта супольная адказнасьць за Касьцёл, якую ў нас час асабліва моцна адчуваюць сьвецкія, несумненна зьяўляецца крыніцаю абнаўленьня. Яна ж фарміруе воблік Касьцёла для новых пакаленьняў у перспектыве трэцяга тысячагоддзя.

Да дваццатай гадавіны заканчэньня Сабору ў 1985 годзе быў скліканы надзвычайны Сінод Біскупаў. Я нагадваю пра гэта таму, што з гэтага Сіноду выходзіла ініцыятыва выданьня *Катэхізму Каталіцкага Касьцёлу*. Некаторыя тэолагі, а часам і цэлыя групы, выказвалі думку, што катэхізм непатрэбны, што гэта форма перадачы веры састарэла і таму цяпер належыць ад яе адмовіцца. Яны казалі таксама, што стварыць катэхізм усеагульнага Касьцёла немагчыма, нерэальна. Тыя ж колы сьцьвярджалі, што непатрэбны і непажаданы новы Кодэкс Кананічнага Права, які меў на ўвазе ўжо Ян XXIII. Між тым біскупы на Сінодзе сьцьвярджалі зусім супрацьлеглае: Кодэкс быў мудраю ініцыятываю, якая адпавядала патрэбам Касьцёла.

Таксама і Катэхізм быў неабходны, каб *усё багацьце вучэньня Касьцёла пасьля Другога Ватыканскага Сабору атрымала новы сінтэз і ў пэўным сэньсе новы накірунак*. Гэтага немагчыма было б дасягнуць без катэхізму усеагульнага Касьцёла. Пасьля паасобныя групы, абапіраючыся на гэты зацьверджаны тэкст, будуць ствараць свае катэхізмы, адпаведна мясцовых патрэбаў. І за адносна кароткі час была завершана гэта вялікая справа, у якой удзельнічаў, уласна кажучы, увесь Касьцёл; асаблівыя ж заслугі належаць кардыналу, Ёзафу Ратцынгеру, прэфекту Кангрэгацыі веравучэньня. Катэхізм, апублікаваны ў 1992 годзе, стаў бестсэлерам на кніжных рынках усяго сьвету. Відаць, які вялікі попыт на такую, здавалася б, непапулярную літаратуру.

Зацікаўленасьць Катэхізмам не праходзіць. Мы стаім перад якойсьці новаю рэчаіснасьцю. *Сьвет, які стаміўся ад ідэалогій, адкрываецца насустрач ісьціне.* Прыходзіць час на тое, каб бляск гэтай праўды *(Veritatis splendor)* пачаў наноў асьвятляць морак чалавечага быцьця. Зразумела, цяжка многае прадвызначыць, але з усяго, што адбылося і што адбываецца, відаць: *Сабор не застанецца мёртваю літараю.*

Дух, Які прамаўляў праз Другі Ватыканскі Сабор, не гаварыў дарэмна. Ва ўсім, што мы перажылі на працягу гэтых гадоў, бачацца новыя перспектывы адкрытасьці на Божую праўду, якую Касьцёл павінен абвяшчаць "у час і ня ў час" (2 Цм 4, 2). Кожны слуга Евангельля павінен дзякаваць Духу Сьвятому за дар Сабору і пастаянна адчуваць сябе яго даўжніком. Шмат патрэбна гадоў і пакаленьняў, каб сплаціць гэты доўг.

*Пераклад*
**Крыстыны Лялько**

*Пачынальнікі і прадаўжальнікі справы II Ватыканскага Сабору*


*Ян XXIII*


*Павел VI*


*Ян Павел I*


*Ян Павел II*

# Рымскі Архірэй з візітам міру ў Сараева


Сараева, 13.04.97. Сьв. Імша на стадыёне.

З 12 па 13 красавіка прайшоў візіт Яна Паўла II у Сараева — горад, які падчас вайны штодзённа губляў па 200 жыхароў. Сам Рымскі Архірэй назваў гэтае падарожжа паломніцтвам міру, дружбы і справядлівасьці. У аэрапорце Яна Паўла II сустракалі прэзідэнт Босьніі-Герцагавіны Алія Ізэтбегавіч, кардынал Сараева Вінка Пулйік, дзяржаўныя і царкоўныя дзеячы, члены міжнародных і грамадзкіх арганізацыяў Босьніі-Герцагавіны. У нацыянальным адзеньні главу Рыма-Каталіцкай Царквы віталі двое дзяцей, якіх асіраціла вайна, а таксама трое мацярок, што засталіся без сям'і, — яны сімвалізавалі ўвесь шматпакутны народ Босьніі-Герцагавіны.

12 красавіка ўвечары ў храме Сьвятога Сэрца адбылася сустрэча Рымскага Архірэя са сьвятарамі, манахамі і семінарыстамі. Ян Павел II высока ацаніў іх мужнасьць і стойкасьць у гады вайны і заклікаў духавенства скіроўваць пастырскую дзейнасьць на выхаваньне ў паствы этычных, маральных і духоўных каштоўнасьцяў.

13 красавіка адбылася сустрэча главы Рыма-Каталіцкай Царквы з біскупамі Босьніі-Герцагавіны. Ян Павел II заклікаў ерархію пашыраць вучэньне Евангельля і тым самым стаць пачынальнікамі новай культуры, заснаванай на хрысьціянскіх каштоўнасьцях.

Ян Павел II таксама сустрэўся з прадстаўнікамі мусульманскай, іудзейскай і праваслаўнай грамадаў Босьніі-Герцагавіны. Падчас размовы з прадстаўнікамі іншых рэлігіяў і канфесіяў глава Рыма-Каталіцкай Царквы заклікаў да шчыльнага супрацоўніцтва, да ўзаемаразуменьня, падкрэсьліваючы, што надыйшоў час для ўзаемапрабачэньня і братэрскага дыялогу. У ходзе візіту адбылася сустрэча з дзяржаўнымі дзеячамі Босьніі-Герцагавіны.


Сараева, 13.04.97. Сустрэча Яна Паўла II з мітрапалітам Дабар-Босьніі Мікалаем.


Сараева, 13.04.97. Ян Павел II сустракаецца з прадстаўнікамі басьнійскіх мусульманаў.

Візіт Рымскага Архірэя ў Сараева меў ня толькі пастырскі, але і палітычны характар. Гэты візіт стаў пацьверджаньнем міжнароднага прызнаньня Босьніі-Герцагавіны як дзяржавы. А ўстанаўленьне дыпламатычных стасункаў паміж Апостальскім Пасадам і Босьніяй-Герцагавінай надало маральнай падтрымкі гэтай краіне ў момант сербска-харвацкага канфлікту.

На думку міжнародных аглядальнікаў, візіт Рымскага Архірэя ў Сараева будзе стымульваць увядзеньне ў практыку Дэйтанскага пагадненьня. Басьнійскія палітычныя сілы разглядаюць гэты візіт як пацьверджаньне шматканфесійнай і шматэтнічнай Босьніі-Герцагавіны. Паводле словаў міністра замежных справаў Босьніі-Герцагавіны, сустрэча паміж главою Рыма-Каталіцкай Царквы і нацыянальнымі лідарамі краіны ўмацуе пазіцыі харвацкіх католікаў і харватаў у цэлым як канстытуцыйнай нацыянальнасьці ў Босьніі-Герцагавіне. Гэта стане гарантам павагі правоў чалавека і будзе спрыяць вяртаньню бежанцаў у свае дамы, стане пачаткам духоўнага і эканамічнага адраджэньня гэтай краіны.

Паводле апошніх статыстычных дадзеных, колькасьць насельніцтва Босьніі-Герцагавіны складае 4480000. 17,2% з іх спавядаюць каталіцкую веру. Каталіцкая Царква Босьніі-Герцагавіны налічвае 284 парафіі, 5 біскупаў, 549 сьвятароў, 461 духоўную асобу і 149 семінарыстаў. Да пачатку вайны ў рэспубліцы было 530000 католікаў. Цяпер засталося 125000. 450000 католікаў былі вымушаныя пакінуць свае дамы. 6 сьвятароў былі забітыя падчас вайны.

## Выбуховыя прыстасаваньні ў Сараеве ў часе візіту Яна Паўла II

Некалькі выбуховых прыстасаваньняў было выяўлена пад мостам ва ўсходняй частцы Сараева на шляху з аэрапорта да кафедральнага сабору — відавочна, зламысьнікі чакалі, што менавіта гэтым шляхам праедзе Ян Павел II. Паводле афіцыйных паведамленьняў міністэрства ўнутраных спраў, гэта былі дзьве супрацьтанкавыя міны. Рэпарцёр ААН Аляксандр Іванка паведаміў, што было знойдзена 23 міны з дыстанцыйным кіраваньнем. Афіцэр паліцыі, які не назваў свайго імя, распавёў журналістам з незалежнай тэлекампаніі, што на месцы выяўленьня выбуховага прыстасаваньня напярэдадні не было ніводнае міны. На ягоную думку, выбуховыя прыстасаваньні заклалі ўначы.

Міністэрства ўнутраных спраў Босьніі-Герцагавіны правяло сьпецыяльную прэс-канферэнцыю. Прадстаўнік міністэрства Сауд Арнаутавіч паведаміў, што выбуховыя прыстасаваньні былі абясшкоджаныя за 10 хвілінаў. Адначасна ён адмовіўся пракаментаваць вышэйзгаданыя сьцьверджаньні Аляксандра Іванка.

(АРІ)

**Творчасьць нашых чытачоў**

*Алесь Бакач*

## Божая мэта

Чалавек закаваны ў пакуты
Быў сваімі ж рукамі спрадвеку,
Бо не братам, а ворагам лютым
Быў часьцей чалавек чалавеку.

У аковы быў зайздрасьцю ўзяты,
Самалюбствам, цямнотай сваёю.
І заганаю быццам закляты,
Апантаны, нібы сатаною.

Землю ў працы, аздобіўшы потам
І крывёй на пабоішча полі,
Спадзяецца на лепшае "потым",
Вечна марыць аб хлебе і долі!

А ў цяпле забывае пра холад,
Бедаком пагарджае, магутны.
Ў п'янай сыці забыўся пра голад,
І... прыходзіць настаўнік — пакуты.

Кожны ўчынак, жаданьне і думка
Не зьнікае ў прасторы бясьсьледна,
Мы ў вечнасьці позна ці хутка,
Ўсё што сеем, пажнем, адпаведна.

Чалавек жа маліўся ў надзеі,
Крыўдаваў у адчаі на Бога.
Але ўрэшце ўсё ж зразумее,
Што часьцінка ў ім Бога самога.

Са сьвядомасьцю брацтва сьвятою
У бязьмежжа жыцьця і Сусьвету
Панясе ён у сэрцы з любоўю
Ўдасканаленьня божую мэту!

## Анёл Пагоня

Крыжы і чаркі зблытаў мой народ,
Ці не таму наўкол нялад і скруха,
Што крывадушнасьць нас вядзе на звод?
Зацьменьне духа...
Анёл Пагоня мечам паказаў
Дарогу, непадзельную надвое,
Адзіны шлях збаўленьня й волі даў —
Сьвятога воя!
Ня жах раба прад караю нябёс,
Не ўзнагароды найміцкай дамова,—
Нанова зоркай асьвяці нам лёс,
Любоў Хрыстова!

***

Найгоршая бяда —
Духоўная мутацыя!
Ня беднасьць з радыяцыяй
Найгоршая бяда.
Не зразумее нацыя —
Загіне без сьляда:
Найгоршая бяда —
Духоўная мутацыя!

***

Услухайся, ўглядзіся ўглыб сябе —
З тваіх глыбінь сьвятая б'е крыніца!
Сьвятло жывое мкне з-за хмар прабіцца —
Услухайся, ўглядзіся ўглыб сябе!
З крыніцы духа здолееш напіцца,
Калі жывеш, гаворачы сабе:
— Услухайся, ўглядзіся ўглыб сябе —
З тваіх глыбінь сьвятая б'е крыніца!

*г.Баранавічы*

# Велікодная пілігрымка берасьцейскіх грэка-католікаў

Вядома, што ў пілігрымцы, вырваўшыся са звыклага жыцьця, чалавек пачынае па-іншаму, глыбей пазнаваць Бога, атрымлівае новыя духоўныя перажываньні. Гэта і падштурхнула берасьцейскіх грэка-католікаў сустрэць Вялікдзень у Івацэвічах. У гэтым горадзе мясцовая грэка-каталіцкая грамада яшчэ вельмі маладая — яна існуе трохі больш за паўгода.

Была таксама і іншая, больш практычная прычына: парафіі Берасьцейшчыны абслугоўвае пакуль што адзін сьвятар — а. Ігар Кандрацьеў, які зьяўляецца душпастырам для грэка-католікаў Берасьцейскай вобласьці.

На набажэнства ў Івацэвіцкай парафіі Жыровіцкай іконы Маці Божай упершыню сабралася так шмат вернікаў. Першы раз маладая парафія прымала амаль два дзясяткі гасьцей, прыезд якіх стаў, безумоўна, добрай духоўнай падтрымкай для івацэвіцкіх грэка-католікаў.

Падчас сьвяточнай Літургіі было зачытана слова на Вялікдзень Апостальскага візітатара для грэка-католікаў Беларусі архімандрыта Сяргея Гаека. Па старадаўнім звычаі, які існуе ў нашай Царкве, Евангельле гучала на некалькіх мовах: па-беларуску, па-расейску, папольску і нават па-нямецку.

Пасьля службы а. Ігар асьвяціў велікодныя стравы, а затым госьці разам з гаспадарамі селі за сьвяточны стол з пасхай, пафарбаванымі яйкамі і іншымі традыцыйнымі велікоднымі стравамі. Гэта было падобна на старажытную агапу — вячэру любові ў першых хрысьціянаў. Так вернікі з Берасьця і Івацэвічаў змаглі бліжэй пазнаёміцца, пасябраваць.

Раніцаю пілігрымы накіраваліся ў Баранавічы. Мясцовая грэка-каталіцкая грамада, якая ўзяла патронамі сабе асьветнікаў славянскіх Кірылу і Мятода, хіба самая маладая ў Беларусі. Яна яшчэ ня мае сваёй капліцы, і таму даводзіцца шукаць памяшканьне для набажэнстваў, тым больш, што колькасьць вернікаў у парафіі хутка расьце.

На Вялікдзень некаторыя людзі ўпершыню ў жыцьці спавядаліся і прымалі сьвятыя Тайны. Напэўна, гэтыя хвалюючы момант запомніцца ім на ўсё жыцьцё.

Пасьля Баранавічаў берасьцейскія пілігрымы накіраваліся ў славутае слонімскае прадмесьце Альберцін. Тут у 1923-1942 гг. знаходзілася ўсходняя місія айцоў-езуітаў, жыў і працаваў экзарх айцец Антон Неманцэвіч. У Альберціне вернікі наведалі пабудаваную перад вайной уніяцкую царкву, якая сёньня належыць праваслаўным, а таксама схілілі галовы ў разважаньні перад сьвятым крыжам, што ўстаноўлены ў 400-ыя ўгодкі Берасьцейскай Уніі ў памяць пра айцоў-езуітаў усходняга абраду. У слонімскім касьцёле Беззаганнага Зачацьця разам з айцамі-капуцынамі пілігрымы памаліліся за беларускі народ і прасьпявалі гімн "Магутны Божа".


*Альберцін. Ля памятнага крыжа айцам-езуітам усходняга абраду.*

**Андрэй Крот**
*г.Берасьце*




*Падчас Велікодных службаў у Івацэвічах і Баранавічах.*


*Альберцін. Былая ўніяцкая царква.*

# Вялікдзень — Сьвята Сьвятаў

Да Вялікадня супрацоўнікі Гарадзенскага музею гісторыі рэлігіі падрыхтавалі цікавую выставу, якая мае назву "Вялікдзень — Сьвята Сьвятаў". Наведвальнікі маюць магчымасьць пазнаёміцца з гісторыяй гэтага вялікага хрысьціянскага сьвята, якая знайшла сваё адлюстраваньне ў прапанаваных у экспазіцыі старажытных абразах, кнігах, гравюрах і прадметах быту, якія маюць дачыненьне да сьвята. Выставу суправаджаюць біблейскія гісторыі пра жыцьцё, сьмерць і Ўваскрасеньне Ісуса Хрыста, а экскурсаводы знаёмяць наведвальнікаў з цікавай інфармацыяй пра велікодныя традыцыі і абрады ў Беларусі.

# “Полацкі сшытак” — духоўная спадчына Ўніяцкай Царквы

*Старадаўняя беларуская музычная спадчына, нягледзячы на намаганьні, якія прыкладаюць апошнім часам такія вядомыя яе дасьледчыкі і папулярызатары, як В.Скарабагатаў, В.Дадзіёмава і Г.Каржанеўская, а таксама часопіс “Роднае слова”, дагэтуль застаецца малавядомай для большасьці нашых музыкантаў і шырокіх колаў беларускага грамадзтва.*

*Яшчэ менш вядомы ў нашым грамадзтве ўнікальны пласт музычнай культуры Беларусі, які належыць Уніяцкай Царкве. Рэдакцыя “Царквы”, у меру сваіх сьціплых магчымасьцяў, паспрабуе выправіць гэтае становішча.*

*На старонках газеты мы будзем знаёміць чытачоў ня толькі са старадаўняй духоўнай спадчынай Уніяцкай Царквы, але і з сучаснымі музычнымі творамі, якімі карыстаецца падчас набажэнстваў Беларуская Грэка-Каталіцкая Царква. Наважыўшыся распачаць гэтую тэматыку ў газеце “Царква”, мы вельмі разьлічваем на тое, што ў пошуку адпаведных матэрыялаў нам дапамогуць нашыя чытачы і, найперш, навукоўцы — гісторыкі і музыказнаўцы.*

У часы Вялікага княства Літоўскага на тэрыторыі Беларусі ўжываліся розныя канфесіі, і ўсе яны мелі свае музычныя традыцыі. На вялікі жаль, музычнай спадчыне Грэка-Каталіцкай Царквы пашанцавала найменш — значная частка яе была зьнішчана пасьля ліквідацыі Уніі ў 1839 годзе, шмат музычных помнікаў трапіла пазьней у архівы Расеі, Польшчы, Летувы, Украіны. Падобны лёс напаткаў і так званы “Полацкі сшытак”, які ўяўляе сабой беларускі ўніяцкі служэбнік, у вокладку якога быў уклеены музычны рукапіс.

“Полацкі сшытак” быў выяўлены ў 1956 годзе ў бібліятэцы Ягелонскага ўніверсітэту, што ў Кракаве. Туды ён трапіў пасьля вайны з былых нямецкіх запасьнікаў. Гэты вельмі каштоўны помнік беларуска-польскай музычнай культуры XVI-XVII стагоддзяў упершыню дасьледаваў польскі музыказнаўца Ежы Голас, які прысьвяціў яму шэраг сваіх артыкулаў.

Першапачаткова дасьледчык палічыў месцам стварэньня рукапісу Полацк, менавіта таму Ягелонскі рукапіс №127/26 і атрымаў умоўную назву “Полацкі сшытак”. На думку Е.Голаса, сам музычны рукапіс можа быць датаваны 1644-80 гг. На старонках музычнага рукапісу няма ніякіх пазнакаў адносна даты і месца яго паходжаньня. Такую выснову музыказнаўца зрабіў пасьля дасьледаваньня паперы музычнага рукапісу, якая мае філігрань: вазон з кветкамі. А яна была распаўсюджана ў паўднёва-ўсходняй Польшчы, Украіне і паўднёва-заходняй Беларусі ў 1644-59 гг. А вось уніяцкі рукапісны служэбнік мае шэраг надпісаў, якія даюць магчымасьць акрэсьліць час і месца яго паходжаньня. Уверсе тытульнага аркуша служэбніка чарнілам зроблены надпіс, які ўказвае на канкрэтную дату — *“Pismo 1680 roku”*, а ніжэй ёсьць яшчэ і надпіс алоўкам, які так-сама пацьвярджае гэтую дату: *“w 57 lat po śmierci Ojca Jozefata, arcybiskupa polockiego”* (як вядома, Я.Кунцэвіч прыняў мучаніцкую сьмерць у 1623 годзе). Надпісы, якія ёсьць на іншых аркушах, сьведчаць, што гэты служэбнік быў створаны ў Астрамечаве, што на Берасьцейшчыне. Вядомы дасьледчык беларускіх старажытнасьцяў Адам Мальдзіс таксама лічыць, што зборнік хутчэй за ўсё быў створаны на беларуска-польскім памежжы. Аналіз моўных асаблівасьцяў тэкстаў, а таксама сам характар скорапісу даюць падставы меркаваць, што “Полацкі сшытак” складаўся ў беларускім асяроддзі.

На 64 старонках музычнага рукапісу зьмешчаны творы вакальнай і інструментальнай музыкі XV-XVII стагоддзяў. У рукапіс увайшлі вельмі разнастайныя творы. Акрамя польскамоўных рэлігійных (касьцёльныя псальмы) і лірычных інтымных песень, сюды ўвайшлі таксама канты, псальмы, асобныя інструментальныя творы, трохгалосныя кампазіцыі для аргану і сьпеву на царкоўна-славянскай мове, цыфраваныя арганныя басовыя партыі, а таксама вялікая колькасьць узораў танцавальнай музыкі. Апошняя ў сваёй аснове мае рытмы, якія былі аднолькава папулярныя ў тыя часы як у Заходняй Еўропе, так і ў Беларусі і Польшчы. Тэкст твораў — польскі, лацінскі, заходнерускі (кірылічны), царкоўна-славянскі скорапіс.

На вялікі жаль, сучасным беларускім дасьледчыкам ня ўсе ўзоры музыкі “Полацкага сшытку” ўдалося адрэстаўраваць: ноты месцамі заплямлены чарнілам, тэкст пабляк. У вучэбна-метадычныя дапаможнікі для нашых музыкантаў дасьледчыкі, на жаль, не ўключылі і трохгалосныя творы з цыфроўкай, цыфраваныя басовыя партыі для аргану, у тым ліку богаслужэбныя творы з кірылічнымі подпісамі — царкоўнымі сьпевамі для ўніяцкай царквы, якія выконваліся ў суправаджэньні аргану. З гэтай прычыны, на нашу думку, у многіх аматараў беларускай старадаўняй духоўнай музыкі склалася ўяўленьне пра “Полацкі сшытак” як зборнік сьвецкай музыкі, а не зборнік, у якім захавана духоўнае багацьце Ўніяцкай Царквы.

Сёньня бясспрэчным ёсьць факт існаваньня арганаў у галоўных тагачасных уніяцкіх сьвятынях — Полацкай Сафіі і Жыровіцкім манастыры (на думку сьпецыялістаў, у XVIII стагоддзі ў Жыровіцах быў хіба найлепшы арган з 80 рэгістраў). Для адраджэньня гвалтоўна перарванай традыцыі ў нашай Грэка-Каталіцкай Царкве было б вельмі цікава і карысна ведаць гэтую спадчыну. Тым больш, што гэтая традыцыя адрозьніваецца ад украінскай, пра што яшчэ раз сьведчыць “Полацкі сшытак”: для Беларусі было характэрна шырокае выкарыстаньне арганаў ва ўніяцкіх храмах.

**Вольга Граськова,**
**Ігар Бараноўскі**
*г.Берасьце*

# Вялікдзень у Менску

У менскай царкве Маці Божай Нястомнай Дапамогі падрыхтоўка да сьвята, як і належыць, пачалася Вялікім постам, бо кажуць так: як правядзеш пост, так і Пасху сустрэнеш.

28 сакавіка, у Вялікую Пятніцу на вячэрні была вынесена сьв. Плашчаніца і пакладзена на пакланеньне вернікаў.

Сьвяткаваньне менскімі грэка-каталікамі Вялікадня пачалося з усяночнай у рымакаталіцкім касьцёле Сьвятога Роха, што на Залатой Горцы. На пачатку службы пад сьпевы сьвятароў і вернікаў вакол храма быў зьдзейсьнены ўрачысты крыжовы ход . Ніхто і ніштo не магло пагоршыць узьнёслы настрой вернікаў, нават моцны вецер, які тушыў агонь сьвечак, бо ўсе чакалі радаснай навіны — Уваскрасеньня Хрыстова.

Роўна апоўначы пад сьпевы “Хрыстос уваскрос з мёртвых” вернікі ўвайшлі ва ўпрыгожаны мноствам кветак храм. Там было так сьвяточна, што радавалася душа і хацелася ўвесь час сьпяваць: “Уваскрасеньню Тваіму, Хрысьце, Спасе, Анёлы ў небе пяюць песьню хвалы...”

Пачалася ютрань, якую ўрачыста служылі а. Казімір Ляховіч, ксёндз Міхал і дыякан Вадзім Заркоў. Служба праходзіла пад сьпевы парафіяльнага хору, якім кіравала спадарыня Галіна Смоляк. Вернікі таксама дружна падпявалі.

З нагоды сьвята Вялікадня было зачытана віншаваньне Апостальскага візітатара для грэка-каталікоў у Беларусі архімандрыта а. Сяргея Гаека. Потым сьвяцілі велікодныя стравы. Калі вернікі расклалі для асьвячэньня тое, што яны прыгатавалі да велікоднага стала, адразу кінулася ў вочы, што перад сьвятам яны папрацавалі добра ня толькі духоўна, але і фізічна.

Ранкам наступнага дня ў час сьвяточнай літургіі быў зачытаны факс Апостальскага візітатара для беларусаў у замежжы а. Аляксандра Надсана. Было вельмі прыемна, што вернікаў сабралася на службу столькі, што маленькая грэка-каталіцкая каплічка іх не зьмяшчала. Вернікам даводзілася стаяць у калідоры, але гэта не псавала настрою, бо сьветлае сьвята Хрыстовага Ўваскрасеньня працягвалася і з вуснаў людзей чулася радаснае “Хрыстос уваскрос! — Сапраўды ўваскрос!”

**Лідзія Баразьнёнак**
*г.Менск*
*парафіянка царквы Маці Божай Нястомнай Дапамогі*

# Ліст з-за акіяну

*Дзень добры, паважаныя суродзічы, браты й сёстры ў Хрысьце!*

Дзякуем за дасланыя часапісы "Царкоўнае слова" й "Царква". Шчыра радуемся Вашым выдавецкім посьпехам, які пэўна ж вымагае вялікай адданасьці справе асабліва ў зарашні цяжкі час.

Дзякуем гэтаксама за кнігу "Сьвятло з Усходу", пафас якое мы бязумоўна падзяляем і ўхваляем, але ставімся да гэтага ня больш як да пафасу, але не да рэальнай ідэі ці праграмы. Ідэя экуменізму, на нашу думку, ажыцьцявімая толькі ў форме духовае еднасьці хрысьціянскага сьвету, але не ў канкрэтна арганізацыйнай. Розныя галіны хрысьціянства разьядноўваюць глабальныя розьніцы ў падыходах да многіх праблемаў рэлігійна-філасофскіх і рэлігійна-арганізацыйных. Гэтыя адрозьненьні множацца ледзь не штодня. Ёсьць свае адмоўныя, але й станоўчыя бакі ў гэтым вольным духовым выяўленьні хрысьціянскага сьвету.

Погляд і канцэпцыя Ватыканскага экуменізму застаецца мала зьмененая на працягу доўгага часу. Ватыкан прапаноўвае сябе як гатовую рэлігійную й арганізацыйную субстанцыю, прэтэндуючы такім чынам на ролю галоўнага інтэгратара й будучага кіраўніка аб'яднанага хрысьціянскага сьвету. Пры гэтым мяркуецца, што цану інтэграцыі аплоцяць прышлыя часткі хрысьціянскіх арганізацыяў сваёй самабытнасьцю ды толькі Ватыкан застанецца непахісным і вечна-нязьменным у сваіх вызначальных дагматах ды ў сваёй арганізацыйнай форме. Царкоўная палітыка і выразны палітычны разьлік мае месца і тут, але на паверхню зьявы высоўваецца адно хрысьціянская філантропія й завадатарства. Як сьведчаць вынікі напружаных рэлігійна-філасофскіх дыскусіяў у сьвеце, хрысьціянскі сьвет збольшага ўсьведамляе кошт экуменізму пад парасонам Ватыкану.

Ня хочам пакрыўдзіць Вашых рэлігійных пачуцьцяў, выказваем адно іншы пункт гледжаньня, які дарэчы, шырока прадстаўлены ў сьвеце. Зрэшты, у высокай рэлігійнай палітыцы й сусьветным рэлігійным працэсе пакуль не знаходзіцца месца беларусам, бо дагэтуль ня маем свайго незалежнага царкоўнага голасу. БАПЦ магла б ім стаць, але й яна абмежана эміграцыяй. Усе іншыя царкоўныя арганізацыі Беларусі ёсьць дадаткам чужых цэркваў з адпаведнай грамадзка-рэлігійнай дэтэрмінантай.

З гэтых сьціслых разважаньняў можна вывесьці й наш погляд на ўнію. Артыкул пра ўгодкі ўніі ў гэтым нумары "Царкоўнага пасланца" *(газета выдаецца ў эміграцыі БАПЦ — заўвага рэдакцыі)*, натуральна, трохі прымітывізуе праблему ўніі, але мы лічым форму ўніі незрэалізаванай у мінулым і неперсьпектыўнай у будучыні. Унія магла стаць нацыянальнай Царквой, але яна ёй ня стала. Сучасная сістэма хрысьціянскага сьвету здэактуалізавала ўнію яшчэ больш.

Пэўне ж, што Вы можаце прывесьці й нейкія свае аргументы й было б нават дужа цікава й карысна, каб беларускі друк ва ўсім сьвеце нарэшце зьвярнуў увагу на праблемы ўніі хоць бы ў рамках Ватыкану. Пакуль мы маем суцэльны хваласьпеў у ацэнках гісторыі й сучаснасьці й прароцтвы ролі Нацыянальнай Беларускай Царквы...

Натуральна, мы ня ёсьць антаганістамі да Вас і будзем рады любым кантактам з Вамі, бо шчыра паважаем Вашую прагу нацыянальнай Царквы. Вы ўжо ёсьць у Беларусі й гэта факт. Нас там дагэтуль няма й гэта таксама факт.

Былі б Вам дужа ўдзячныя за дасылку Вашага выданьня, мы ў сваю чаргу будзем дасылаць Вам актуальную інфармацыю.

Ад імя рэдакцыі,

**Віктар Бражэвіч**
*Somerset, N.J., USA*

## *Ад рэдакцыі "Царквы":*

Мы палічылі, што ліст з Амерыкі з рэдакцыі газеты "Царкоўны пасланец", якую выдаюць праваслаўныя беларусы-эмігранты, будзе цікавы нашым чытачам. Нас вельмі цешыць, што праваслаўныя беларусы-эмігранты з братняй павагай адносяцца да грэка-католікаў Беларусі, паважліва ставяцца да нашых рэлігійных перакананьняў, што, на жаль, не заўжды мы маем на Бацькаўшчыне. У сваю чаргу і мы, грэка-католікі, сьпяшаемся заверыць нашых праваслаўных братоў-беларусаў, што ставімся да іхніх рэлігійных перакананьняў з няменшай павагай і заўжды адкрытыя для шчырага супрацоўніцтва, кантактаў і дыялогу.

Няпроста адразу адказаць на тыя закіды, што зроблены ў дасланым нам лісьце. Але нашым адказам на іх ёсьць кожны нумар газеты "Царква", кожны, зьмешчаны ў ёй матэрыял.

Мы, грэка-католікі, ёсьць нават праз 200 гадоў тэрору і гвалту. Зноў паўстаюць царкоўныя грамады, што ня ёсьць дзіўным, бо мы зьяднаныя неўміручай ідэяй, якую пакінуў хрысьціянам сам Хрыстос: *"Каб усе былі адно"*. Мы не шукаем нацыянальнай абмежаванасьці і закрытасьці ў межах уласнай Царквы. Мы шукаем хрысьціянскага дыялогу любові і еднасьці з хрысьціянамі ўсяго сьвету, у лоне адзінай Царквы Хрыстовай, дзе ёсьць месца для розных абрадаў, розных народаў і іх моў. Апостальская Сталіца зусім не перашкаджае беларусам захоўваць уласную нацыянальную тоеснасьць і самабытнасьць. Хутчэй наадварот спрыяе, шмат робіць, каб і мы, беларусы, змаглі пакласьці сваю, беларускую цаглінку, у фундамент сусьветнай хрысьціянскай цывілізацыі. Слова толькі за нашым грамадзтвам, якое сёньня патроху вяртаецца да вечных каштоўнасьцяў пасьля дзесяцігоддзяў атэістычнага дурману.

На жаль, яшчэ заўчасна гаварыць, што Беларусь — краіна хрысьціянская, і зусім недарэчна чуць пра 70% праваслаўных сярод насельніцтва нашай краіны — гэта нішто іншае, як блеф, бо за гэтымі лічбамі няма рэальных вернікаў. Ці ж можна лічыць сапраўднымі хрысьціянамі тых, якія ня толькі не трымаюцца, але і ня ведаюць Хрыстовых запаведзяў, якія, будучы сам-на-сам са сваім сумленьнем у кабінах для галасаваньня адмаўляюцца на рэферэндуме ад хрысьціянскіх сімвалаў, якімі ёсьць герб "Пагоня" з крыжам на шчыце ў ваяра і бел-чырвона-белы сьцяг, колеры якога ва ўсім сьвеце азначаюць хрысьціянскую чысьціню і кроў пакутнікаў? Няўжо сапраўдныя хрысьціяне з ярасьцю апантанага могуць настойваць на захаваньні сьмяротнага пакараньня? А як можа сумяшчацца з хрысьціянскім мысьленьнем падтрымка носьбітаў камуністычнай ідэялогіі, якая варожая хрысьціянству па сваёй сутнасьці?

Беларусь да захопу яе Расейскай імперыяй была каталіцкай краінай — звыш 90% вернікаў Беларусі былі католікамі, прычым абсалютная большасьць з іх (да 80%) была католікамі ўсходняга абраду ці, інакш, уніятамі (грэка-католікамі). Няма сумніву, што гэта сталася далёка не бязбалесна. На жаль, гэта быў такі час. У выніку зацятай, а часам і крывавай барацьбы, з абодвух бакоў — каталіцкага і праваслаўнага — зьявіліся свае ахвяры, мучанікі за веру. Пазьней быў ня менш трагічны перыяд гвалтоўнага пераводу ўніятаў з дапамогай царскай дубінкі на праваслаўе, а найбольш стойкія мусілі перайсьці на лацінскі абрад... Безумоўна, гэты трагічны вопыт мусіць быць улічаны. Але сёньня беларусам зноў спрабуюць накінуць "адзінаправільную", "гасударсьцьвенную" рэлігію, у чарговы раз выкарыстоўваючы для гэтага Праваслаўную Царкву...

Для новай евангелізацыі ў Беларусі шырачэзнае поле дзейнасьці. І няма чаго прадстаўнікам традыцыйных хрысьціянскіх канфесіяў (да якіх мы, безварункова, залічваем і Грэка-Каталіцкую Царкву) спрачацца за сферы ўплываў, будаваць новыя берлінскія муры і межы. "Жніва многа, работнікаў мала". Мы павінны разам будаваць наш Беларускі Дом, які мусіць быць гасьцінна адчынены і на Захад, і на Ўсход (гэта зусім не азначае быць прахадным дваром Еўропы!). Кожны беларус мусіць зрабіць свой выбар. Хрысьціянская цывілізацыя Еўропы на нас зачакалася. Упэўненыя, што і хрысьціянскай Беларусі будзе чым падзяліцца з ёй.



*Дарагія браты і сёстры рэдакцыі "Царквы"!*

*Дзякую Вам за тое, што робіце для душы ўсіх, хто любіць Хрыста і таму адчувае прагу да кніг духоўных, да ствараемай Вамі "Царквы"!*

*У нас на пошце да сяго дня няма падпіскі на "Царкву". Таму, дасылаю Вам сьціплую суму на выданьне і вельмі прашу дасланць мне № 1, 1997 "Царквы" (усе папярэднія маю!). Калі выпадзе падпісацца — паведамлю Вам. Невялікія грошы буду старацца дасылаць і надалей.*

*Мне 76 гадоў, па сьпецыяльнасьці — мастацтвазнаўца; беларуска з Рагачову, але амаль усё жыцьцё прайшло ў Расеі; на радзіму прывёў Гасподзь у сьнежні 1989 году.*

*Жыву з сястрыцай Лідзіяй, ёй 65. Атрымліваем пенсію. Радзіны няма, але ёсьць сябры, ёсьць Царква, ёсьць Унія.*

*Алілуя! Зычу здароўя і посьпеху!*

*З шанаваньнем,*

**Клаўдзія А.**

*м.Сьвіслач Пухавіцкага раёну*

*Мінскай вобласьці*

*Ад рэдакцыі:*

Мы шчыра ўдзячныя сп-ні Клаўдзіі за добрыя словы ў адрас газеты "Царква" і радыя, што нашая праца ня ёсьць марнаю, што "Царкву" чытаюць нават у невялікіх вёсках і мястэчках Беларусі.

Нягледзячы на ўсе цяжкасьці (сярод іх, на жаль, і немагчымасьць пакуль арганізаваць падпіску на "Царкву" праз "Белпошту"), мы будзем і надалей імкнуцца рэгулярна выпускаць нашу газету, паляпшаць яе зьмест, каб яна была цікавай і чаканай для Вас, сп-ня Клаўдзія, Вашых сяброў і знаёмых, а таксама і для ўсіх чытачоў ва ўсіх кутках нашай роднай Бацькаўшчыны. Асабліва дзякуем за ахвяраваныя сп-няй Клаўдзіяй грошы на газету "Царкву". Разумеем, як няпроста выжыць на невялікія пенсіі ў наш час. Тым больш каштоўнай робіцца для нас Вашая дапамога і прызнаньне нашай сьціплай працы. Здароўя Вам і Вашай сястры! Барані Вас Бог!



*Прывітаньне, шаноўная рэдакцыя!*

*Выпадкова ў мае рукі трапіла газета "Царква". З вялікай цікавасьцю і задавальненьнем прачытаў яе.*

*Тое, што друкуецца ў ёй, адпавядае маім думкам у апошні час і падтрымлівае іх.*

*Жадаў бы зрабіць падпіску на газету. Дасылаю ўласны адрас.*

**Мікалай Е.**

*г.Гомель*

*Ад рэдакцыі:*

Прыемна, што знаходзім новых аднадумцаў. Абавязкова будзем дасылаць для Вас "Царкву". Спадзяемся, што гомельская грэка-каталіцкая грамада Трох Сьвяціцеляў у хуткім часе павялічыцца, таксама, як і кола чытачоў "Царквы" у Гомелі!

## Шаноўныя чытачы газеты "Царква"!

Нашу газету вы заўжды зможаце знайсьці ў грэка-каталіцкіх парафіях Менска, Берасьця, Баранавічаў, Івацэвічаў, Горадні, Маладэчна, Ліды, Магілёва, Віцебска, Полацка, Гомеля. Калі ж у вашай мясцовасьці няма такой магчымасьці атрымліваць "Царкву", прапануем вам даслаць свае адрасы нам у рэдакцыю. Мы пастараемся абавязкова даслаць вам нашу газету бясплатна.

Будзем таксама вельмі ўдзячныя любым вашым заўвагам, прапановам і меркаваньням адносна зьместу газеты "Царква", а таксама вашай дапамозе ў распаўсюджваньні адзінай у Беларусі грэка-каталіцкай газеты. Чакаем вашых допісаў!



*Шаноўная рэдакцыя "Царквы! Я стаў чытач газеты і хачу падзяліцца з чытачамі сваімі думкамі адносна нашай веры.*

*Шмат хто з моладзі задае сабе пытаньне аб тым, дзе ж яна, сапраўдная вера; спрабуе адшукаць яе ў моры шматлікіх хрысьціянскіх канфесіяў, іншым разам трапляе пад уплыў розных сэктаў...*

*Уніяты... Яшчэ нядаўна гэтае слова было пад забаронай, ставілася ў адзін шэраг з "палітыканствам" і "інтрыгамі" Ватыкану. Уніятаў галаслоўна абвінавачвалі ў паланізацыі і "перасьледзе ўсяго прагрэсіўнага". Але з пачаткам галоснасьці зьявілася шмат кнігаў, абвяргаючых міфы аб "антынароднай" сутнасьці ўніяцтва.*

*На маю думку, для чалавека, знаёмага з гісторыяй, бясспрэчны ўнёсак Уніяцкай Царквы ў разьвіцьцё сакральнага мастацтва, архітэктуры і кнігадрукаваньня нашай краіны. Ва ўніяцкай архітэктуры і іканапісе гарманічна спалучыліся ўсходнія і заходнія рысы, актыўна выкарыстоўваліся ў аздабленьні храмаў мясцовыя традыцыі. У аблачэньнях сьвятароў прысутнічала нацыянальная арнаментальная вышыўка; літургічныя сьпевы як і астатняя частка богаслужэньняў былі на жывой мове, зразумелай народу.*

*Дзякуй Богу, што ў наш час зьявілася магчымасьць свабодна адпраўляць грэка-каталіцкія набажэнствы. Але асноўныя цяжкасьці палягаюць у адсутнасьці ўласных храмаў, не хапае сродкаў на выданьне рэлігійнай літаратуры, востра стаіць праблема падрыхтоўкі ўніяцкіх сьвятароў. Але ўжо ёсьць і першыя дасягненьні, нават нягледзячы на тое, што адносіны дзяржавы да нас, у адрозьненьне ад Праваслаўнай Царквы, па-ранейшаму насьцярожана-непрыймальныя. Цешыць, што наладжваюцца справы з выхадам нашай газеты "Царква", якую, дарэчы, з задавальненьнем чытаюць у вёсцы, дзе жыве мая бабуля. Веру, што з Божай дапамогай мы здолеем пераадолець часовыя цяжкасьці і наша Царква будзе свабодна несьці людзям словы Хрыста ў роднай мове.*

**Уладзімір Мураўскі**

*г.Берасьце*

*Ад рэдакцыі:*

Усьцешаныя, што жаданьне знайсьці сваю веру прывяло Ўладзіміра да веры нашых продкаў. Падзяляем і радуемся аптымізму нашага чытача з Берасьця, нягледзячы на цяжкасьці і праблемы, што стаяць перад БГКЦ сёньня. Зычым гэтага ж аптымізму і ўсім вернікам нашай Грэка-Каталіцкай Царквы.

## Сумесны малебен навагрудзкай моладзі

У Навагрудку адбыўся сумесны малебен моладзі праваслаўнага прыходу сьв. Мікалая і рыма-каталіцкай парафіі сьв. Міхаіла. На пачатку моладзь сабралася ў праваслаўнай царкве, дзе быў адпраўлены акафіст Найсьвяцейшай Багародзіцы. Сьвятар Лявонцій Блізьнюк паказаў гасьцям храм. Затым усе разам перайшлі ў нядаўна адрамантаваны касьцёл сьв. Міхаіла, дзе праслухалі казаньне Слова Божага. У сумесным малебне навагрудзкай моладзі бралі ўдзел 3 праваслаўныя сьвятары, вікарый парафіі сьв. Міхаіла ксёндз Ян Пузына, а таксама сёстры-назаратанкі.

## Беларускія сьвятары ўдастоены тытулу Пралатаў

Трое сьвятароў Гарадзенскай дыяцэзіі рашэньнем Апостальскай Сталіцы былі ўдастоены тытулу Пралата Яго Сьвятасьці. Такое прызнаньне атрымалі канцлер Дыяцэзіяльнай курыі кс. Казімір Шаняўскі, дэкан дэканату Радунь; пробашч парафіі Ўзвышэньня сьв. Крыжа ў Горадні, дэкан дэканату Горадня-Захад кс. Антоній Ханько, а таксама пробашч парафіі ў Ішчаўне, дэкан дэканату Шчучын Вікенцій Лісоўскі.

# Вызначэньне волі Божай, калі яна ўтоеная

Хрысьціянская дасканаласьць патрабуе выкананьня волі Божай. Воля Божая можа быць відавочнай (аказанай) і невідавочнай (утоенай). Аказанай яна бывае тады, калі мы пэўна ведаем, чаго хоча ад нас Бог. Звычайна яна дадзена нам у нашым сумленьні, у запаветах Гасподніх, у навуцы Царквы, у словах Хрыста: "І вось усё, што хочаце, каб рабілі вам людзі, тое і вы рабеце ім..." (Мц 7, 12).

Але бываюць у жыцьці выпадкі, калі волю Божую вызначыць вельмі цяжка. Напрыклад, пры неабходнасьці прыняцьця патрэбных рашэньняў у складаных сітуацыях, па якіх няма яўных указаньняў Бога і Царквы. Калі ня ведаем, добры ці злы дух нас натхняе, то для вызначэньня волі Божай належыць зрабіць наступнае:

1. Сабраць як найболей ведаў да вашага пытаньня, якія патрэбны для таго, каб зрабіць выбар.

2. Прасіць Бога пра духоўнае сьвятло і кіраўніцтва пры прыняцьці рашэньня.

3. Вызваліць сваё сэрца ад усякіх пачуцьцяў, здольных уплываць на вашу волю і розум.

4. У стане ўнутранага спакою прааналізаваць сабраныя веды, разьмеркаваць усе варыянты "за" і "супраць" адносна пэўнага выбару.

5. Паставіць пытаньне адносна варыянтаў выбару рашэньня ў найпрасьцейшай форме, каб адказ стаяў "так" ці "не".

6. Скіраваць сябе на сур'ёзнасьць і адказнасьць выбару так, як усё роўна выбіраем перад сьмерцю, і зьмяніць гэты выбар ужо будзе нельга.

7. Зьвярнуцца да Бога з поўным даверам, вераю, любоўю, надзеяй і прастатою. Дапытвацца Яго адказу ў малітве 20-30 хвілінаў (мала калі менш), а магчыма і дзень, і тыдзень (на вельмі важныя і складаныя праблемы). Разглядаць праблему ў сьвятле сваёй лучнасьці з Богам.

8. Праз пэўны час, а можа, і адразу, адчуеш супакой і ўпэўненасьць адносна прынятае пастановы, магчыма, і радасьць. Гэтыя пачуцьці ёсьць знакам таго, што выбар згодны з воляй Бога. "Плён жа Духу *(Сьвятога)*: любоў, радасьць, згода" (Гал 5, 22). Праз некаторы час яшчэ раз правер сябе, ці доўжыцца ў душы супакой, упэўненасьць, радасьць. Калі гэтыя пачуцьці неадменныя, нават калі б вам давялося цярпець ад людзей, то ўсё роўна ваш выбар слушны, бо згодны з воляй Божай. Калі ж у душы адчуеце зьбянтэжанасьць, непакой, няўпэўненасьць і смутак — дык ведайце, што ваш выбар зроблены не праз волю Божую.

**а. Віктар Данілаў**
*г.Горадня*

*Яр Сожыс*

## Манаху

Ня бойся жыць у кругаверці,
Бо ў цяжкасьцях з табой браты.
Цябе сустрэнуць пасьля сьмерці
Айцец і Сын і Дух Сьвяты.

## Сьпеў гары

З вяршыні псальм гары высокай,
Увесь прасякнуты тугой,
Імчаў, як плынь ракі глыбокай,
Імчаў і клікаў за сабой.

## Ён

Ён зьявіўся агеньчыкам ў ночы —
Хор анёлаў "Сьвят, Сьвят" прасьпяваў.
Чалавек, дзе былі твае вочы,
Калі Бог да цябе завітаў.
Роў "Распні" — на Галгофу Ён крочыў —
Хор анёлаў ужо не сьпяваў.
Чалавек, дзе былі твае вочы,
Калі Бог за цябе паміраў.

*г.Гомель*

# Крыжаванка




**Па вертыкалі:**

1. Вучань Хрыста, якому Гасподзь тройчы сказаў: "Пасьві авечкі мае".
3. Родавы маёнтак Язэпа Руцкага.
5. Сьвецкае імя Іпація Пацея.
6. Аздоблены галаўны ўбор прадстаўніка вышэйшага духавенства.
7. Духавы музычны клавішны інструмент.

**Па гарызанталі:**

2. Асьветнік славянаў, сьвяты.
4. Майстар, які стварыў крыж для сьв. Еўфрасіньні Полацкай.
5. Частка адзеньня сьвятара.

*Увага! Сярод чытачоў, якія да 1 ліпеня дашлюць правільныя адказы на крыжаванку, будуць разыграныя пяць невялічкіх прызоў рэдакцыі* "**Царквы**".

# Рэлігія і дэмакратыя ў свабодным грамадзтве

Нядаўна пад Тарнавым (Польшча) адбылася міжнародная канферэнцыя "Рэлігія і дэмакратыя ў свабодным грамадзтве". Яе арганізавалі польскі і еўрапейскі форум міранаў-каталікаў, а ўдзельнікамі сталі рыма-, грэка-каталікі і праваслаўныя з 22 краінаў Еўропы. Сярод іх былі і філосафы, тэолагі, палітыкі, прадстаўнікі розных сьвецкіх хрысьціянскіх арганізацыяў.

Падчас пасяджэньня ўдзельнікі з заходніх краінаў гаварылі, галоўным чынам, пра арганізацыю веруючых міранаў, пра іхні ўдзел у царкоўным жыцьці, а прадстаўнікоў Усходняй і Цэнтральнай Еўропы больш цікавіў уплыў Царквы на палітычнае жыцьцё краінаў. Большасьць прысутных далі высокую ацэнку ролі Царквы ў сучасным грамадзтве, уважаючы, што толькі яна здатная прапанаваць людзям неабходную супольную вышэйшую ідэю. Удзельнікі канферэнцыі амаль аднадушна зышліся на тым, што вышэйшую ідэю — ідэю Бога, маральных каштоўнасьцяў, прапануе дэмакратычным супольнасьцям Еўропы менавіта хрысьціянства.

**Царква**
*грэка-каталіцкая газета*
**№ 2 (13), 1997**

**Адрас рэдакцыі:**
Беларусь, 224014, г.Берасьце, вул.Дворнікава, 62/1-1.
Тэл.: (0162) 264713.

**Нумар падрыхтаваны:** Берасьцейскай грэка-каталіцкай парафіяй сьвятых братоў апосталаў Пятра і Андрэя.
**Выдавец:** сьвятар Ігар Кандрацьеў.
**Рэдактар:** дыякан Андрэй Абламейка.
**Царкоўны асістэнт:** протапрасьвітар Ян Матусевіч.
**Падпісана ў друк:** 27 траўня 1997 года, а 22-30.
**Паліграфічныя работы:** "Арбор", Менск, вул.Мележа, 3.
*Газета выдаецца на ахвяраваньні вернікаў. Дзякуем за ахвяру!*
*Наш разьліковы рахунак № 3015200210017*
*у Берасьцейскім філіяле № 2 КБ "Абсалютбанк", МФО 150501242*
Аб'ём — 2,0 ул.-выд.аркушы. Наклад 499. Замова №